# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 12 (943) ГОД XIX БЕЛАСТОК 24 САКАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-годдзю ПНР

Вялікі марафон народных і сучасных мелодый можна было б назваць цэнтральны агляд **„Песня-74“**, што адбыўся 3 сакавіка г.г. у тэатральнай зале Ваяводскай рады прафесіянальных саюзаў у Беластоку. На ім прадэманстравалі свае вакальныя здольнасці і рэпертуарнае багацце салісты і калектывы з пяці паветаў Беласточчыны, горада Беластока і Варшавы.

Як і ў папярэднія гады, арганізатарамі сёлетняга конкурсу былі Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя штотыднёвіка „Ніва“ пры саўдзеле аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, ваяводскіх праўленняў Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі, сельскагаспадарчых гурткоў, гмінных кааператываў ГС і спажывецкіх кааператываў „Сполам“, Ваяводскай рады прафесіянальных саюзаў, акруговага праўлення Саюза дабравольных проціпажарных каманд, прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух“, ваяводскага дома культуры і павятовых дамоў культуры.

І ўсё ўзрастаючая папулярнасць гэтага артыстычнага мерапрыемства ў нашым асяроддзі, і вялікая праца пры яго падрыхтоўцы — усё гэта дало багаты плён — у **павятовых** аглядах прыняло ўдзел **звыш 200 самадзейных выканаўцаў**, а на **цэнтральны агляд** прыбыло **112 удзельнікаў**, у тым ліку 9 салістаў, 11 дуэтаў і 12 калектываў.

Агляд адкрыў уступным словам **М. Самоцік** — старшыня ГП БГКТ.

Конкурс праходзіў пад лозунгам „З песняй насустрач 30-годдзю Народнай Польшчы“ і гэта было адлюстравана ў змесце твораў. У народных песнях, паўстанне якіх трэба адносіць недзе да XIX стагоддзя, вядучым матывам было цяжкое паднявольнае жыццё працоўнага люду беларускай вёскі, грамадская і сямейная крыўда і часам смех скрозь слёзы над сваім бязвыхадным жыццём. Аб чалавеку вольным, закаханым у свой родны край, і ўдзельніку стваральнай працы гаварылі сучасныя беларускія, польскія і рускія песні.

Цэнтральны агляд працягваўся чатыры з палавінай гадзіны і яго журы пад старшынством **Веслава Дзюбінскага** (артыста Беластоцкага сімфанічнага аркестра) у складзе: Казімежа Круліхоўскага (працаўніка Ваяводскай рады прафесіянальных саюзаў), Чэслава Жукоўскага (настаўніка музыкі ў Беластоку) і Мікалая Гайдука (публіцыста „Нівы“) мела нялёгкае заданне: салісты, дуэты і калектывы паказвалі на сцэне высокі ўзровень выканаўчага майстэрства і надзвычайную разнастайнасць песенных форм — ад папулярнай частушкі да песенна-танцавальнай сюіты ўключна.

**(Працяг на стар. 4)**



*Аліцыя Хаванская. І ўзнагарода.*



*У глядзельнай зале.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“



## ШТО ЧУВАЦЬ?

## ГОД 1974 НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

**Што чуваць?** — кіруем сёння ў адрас начальніка **павятовага ўпраўлення** ў Гайнаўцы **тав. Анатоля Гінштa.**

— Зацверджан бюджэт павятовага ўпраўлення і план гаспадарча-грамадскага развіцця Гайнаўскага павету ў 1974 годзе. Гэты план, гаворачы найбольш агульна, вызначае далейшы прагрэс у параўнанні з нядрэнным мінулым годам ва ўсіх галінах грамадска-гаспадарчага жыцця насельніцтва Гайнаўшчыны. У лікавым адлюстраванні гэта прадстаўляецца так:

— быдла будзе больш на 9,3 прац.
— свіней будзе больш на 9,5 прац.,
— авечак будзе больш на 3,5 прац.,
— збожжа спадзяемся 23 цэнт./га,
— бульбы спадзяемся 203 цэнт./га,
— у прамысловасці вызначаем прырост на 9,5 прац.

Усе гэтыя паказчыкі трэба разглядаць камплектна, яны ўзаемна звязаны між сабой, як кольцы ланцугоў, як пальцы адной рукі. Для прыкладу, у выніку павелічэння жывёлагадоўлі на вышэй указаныя 10 прац., атрымаем амаль 3 тыс. больш кароў і цялят. Іх трэба забяспечыць кормам, задбаць аб дадатковых месцах у хлявах і аборах. Усяго гэтага нашы сяляне не могуць спадзявацца ў падарунку ад нейкага добрага дзядзькі. Каб атрымаць больш кармоў, трэба лепш дбаць аб полі, трэба дабіцца вышэйшага ўраджаю на сенажаці, а дзеля гэтага, ў сваю чаргу, неабходна прымяняць вышэйшыя дозы мінеральнага і натуральнага ўгнаення. Вось напомню тут аб выступленні на сесіі аднаго селяніна з-пад Чаромхі. Заклікаў ён сялян нашага павету, каб адначасова прымянялі высокія дозы штучнага ўгнаення і жывёльнага гною, бо толькі тады, гаварыў ён, адно і другое ўгнаенне ў максімальнай ступені садзейнічаюць росту ўраджайнасці. Гавару я пра гэта перш за ўсё таму, што сярод нашых сялян даволі шырока распаўсюджаны закаранелыя меркаванні аб тым, што не трэба прымяняць мінеральнага ўгнаення там, дзе поле добра ўгноенае натуральным гноем. Часта і мне самому даводзілася чуць больш-менш вось такія выказванні: **„Што вы мне галаву дурыце гэтымі „навозамі“, калі ў мяне ўласнага гною, хоць адбаўляй!“**

Каб ажыццявіць указаны планам тэмп развіцця сельскай гаспадаркі ў Гайнаўскім павеце, неабходна нам пераадолець такія погляды. Ды не толькі гэта. Паслядоўна і ўсё хутчэй трэба нам узбагачаць тэхнічнае аснашчэнне сельскай гаспадаркі. Сёння адзін трактар у Гайнаўскім павеце мае заараць за кароткі сезон каля двухсот гектараў зямлі. У павеце, у якім найбольш спулдзельняў прадукцыйных, у якім вельмі многа дзяржаўнага фонду зямлі, няма нават 20 камбайнаў. Якая ж гэта механізацыя?! У час апошняй сесіі наслухаліся мы за гэта найбольш крытычных заўваг. Слухалі і чырванелі, хаця ведалі, што чырванеем не за сябе. Бо ўласнай фабрыкі сельскагаспадарчых машын мы ж не маем і не рашаем, колькі і каму прыдзяліць гэтых трактараў ці камбайнаў.

Радныя, прадстаўнікі нашых вёсак, выказвалі таксама прэтэнзіі ў адрас устаноў, якія кіруюць меліярацыйнымі работамі. Праўда, на гэты год, прадбачваецца ў нас даволі багатая праграма па меліярацыі поля і сенажаці. Аднак усё яшчэ астаецца адкрытай праблема загаспадарвання забалочанай даліны ракі Нараў, якая — хопіць глянуць на карту Беласточчыны — з усходу на захад перасякае ўвесь наш павет і вакол

**(Працяг на стар. 5)**

## БГКТ ХРОНІКА

■ Нядаўна ў Бельскім павеце адбыліся справаздачна-выбарныя сходы ў гуртках БГКТ у вёсках: Казлы, Леўкі, Пілікі, Крывяцічы і Агароднікі. Шмат увагі ў дыскусіі, а таксама ў планах далейшай дзейнасці было ўдзелена там развіццю мастацкай самадзейнасці на беларускай мове, а таксама ўключэнню гурткоў БГКТ ва ўсе мерапрыемствы ў сваіх асяроддзях у сувязі са святкаваннем XXX гадавіны Народнай Польшчы.

■ 7 сакавіка ў Белавежы гмінныя ўлады наладзілі вечар з нагоды Міжнароднага свята жанчын. У мастацкай частцы выступіў там мясцовы калектыў песні і танца БГКТ „Белавежа“, а таксама самадзейнікі з падставовай школы.

■ 9 сакавіка гарадоцкі жаночы харавы калектыў БГКТ святкаваў XX-годдзе свайго існавання. На гэтай урачыстасці былі ўручаны яму ўзнагароды і адзнака „Заслужаны Беласточчыне“. Такую ж адзнаку атрымала Ніна Мушынская. Аб гэтай урачыстасці будзе спецыяльная публікацыя ў наступным нумары „Нівы“.

■ 10 сакавіка гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку падрыхтаваў урачысты вечар, прысвечаны Міжнароднаму святу жанчын. З дакладам выступіў лектар Ваяводскага праўлення ТППР Станіслаў Войцік. Вёў урачысты вечар старшыня аддзела Мікалай Гайдук. У мастацкай частцы было першае публічнае выступленне балетнай групы аддзела, якой кіруе Янка Крупа, выступленне салістаў Аліцыі Хаванскай, сёстраў Любы Гаўрылюк і Яўгеніі Мінько, дзесяцігадовай дачкі Любы Гаўрылюк — Ані, Уладзіміра Юрчука і музычнай групы аддзела.

■ Урачыстыя вечарыны з нагоды Міжнароднага свята жанчын адбыліся ў Чыжах, Чаромсе, Баброўніках, Міхалове, Юшкавым Грудзе, Плёсках, Мілейчыцах і ў многіх іншых мясцовасцях. Суарганізатарамі іх былі гурткі БГКТ і іх актывісты. У мастацкай частцы ў некаторых мясцовасцях выступалі самадзейнікі гурткоў БГКТ.

■ Эстрадны калектыў з Плёсак на павятовым конкурсе савецкай песні ў Бельску 10 сакавіка заняў другое месца.

■ На павятовым з'ездзе ТППР у Беластоку 11 сакавіка кіраўнік па справах культуры гміннага праўлення рады нарадовай у Гарадку — Мікалай Матэйчук у сваім выступленні высока ацаніў дзейнасць Беларускага таварыства, якое распаўсюджвае веды аб Савецкім Саюзе і ўмела прапагандуе культуру народаў СССР, а асабліва беларускага народу.

■ 12 лютага адбыўся сход харавога калектыву БГКТ у Дубяжыне, на якім прысутнічаў старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Прысвечаны ён быў хвалюючым справам харавога калектыву.

■ Аддзелы БГКТ рыхтуюцца да аглядаў драматычных калектываў пры дапамозе аддзелаў культуры павятовых упраўленняў. 17 сакавіка правёў агляд бельскі аддзел а 23 і 24 сакавіка правядуць гайнаўскі і павятовы беластоцкі аддзелы. (мх)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

## СВЕТ

### ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ: БРЭЖНЕЎ — ПАМПІДУ

Два дні ў чарнаморскім курорце Піцунда працягваліся гутаркі Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. Брэжнева з Прэзідэнтам Французскай Рэспублікі Ж. Пампіду. Гэта ўжо пятая пасля вайны сустрэча прадстаўнікоў найвышэйшых улад абедзвюх краін.

Савецкі прадстаўнік Л. Замяцін на прэс-канферэнцыі для журналістаў зачытаў заяву, у якой гаворыцца, што Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў разглядае гутаркі з прэзідэнтам Францыі, як вельмі карысныя для далейшага паглыблення савецка-французскага супрацоўніцтва ў розных галінах. Шчыры і канструктыўны абмен думкамі адпавядаў той атмасферы, якая была закладзена ў вядомых савецка-французскіх дакументах аб прынцыпах супрацоўніцтва і ўзаемных кансультацыях. Гутарка, на нашу думку, сказаў Л. Брэжнеў, пацвердзіла, што курс на развіццё дружалюбнага супрацоўніцтва паміж Савецкім Саюзам і Францыяй захоўваецца ва ўсёй паўнаце і што ёсць імкненне даць новы імпульс гэтаму супрацоўніцтву.

### ПАСТАЯННЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

Урады Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі падпісалі пратакол аб пастаянных прадстаўніцтвах ФРГ і ГДР. Будуць яны акрэдытаваны пры Савеце Дзяржавы ГДР і прэзідэнце ФРГ. Канцлер В. Брант сказаў, што дагаворанасць у справе прадстаўніцтваў з'явіцца „далейшым важным крокам на шляху паляпшэння адносін паміж абедзвюма германскімі дзяржавамі".

### ПРАГРАМА ЛЕЙБАРЫСТАЎ

На першай сесіі англійскага парламента новага склікання з троннай мовай выступіла каралева Лізавета II. У ёй выкладаецца праграма дзейнасці новага ўрада.

У знешнепалітычнай частцы прамовы ўказваецца, што лейбарысцкі ўрад мае намер дабівацца „правядзення новых перагавораў па сутнасці ўмоў уступлення Англіі ў Еўрапейскае эканамічнае супрацоўніцтва" і вынесці вынікі гэтых перагавораў на адабрэнне англійскага народа.

### ЯПОНСКІ БЮДЖЭТ

Бюджэт Японіі на 1974 фінансавы год, які пачынаецца 1 красавіка, амаль на 20 працэнтаў большы, чым у гэтым годзе. У новым бюджэце звяртае на сябе ўвагу скарачэнне ў параўнанні з мінулым годам асігнаванняў на грамадскія работы. У той жа час амаль на 17 працэнтаў павялічваюцца ваенныя расходы: упершыню ў пасляваеннай гісторыі краіны яны перавысяць 1.000 мільярдаў іен.

### КІРМАШ У ЛЕЙПЦЫГУ

Больш чым 800 чыгуначных вагонаў і грузавых аўтапаяздоў з розных краін прыняў нядаўна Лейпцыг. 10 сакавіка тут адкрыўся веснавы міжнародны кірмаш, які праходзіць пад традыцыйным дэвізам „За сусветны гандаль і тэхнічны прагрэс".

У 50 павільёнах і на адкрытых дэманстрацыйных пляцоўках размешчаны экспанаты. (ак)

## БССР

### АБ ЗАРУБЕЖНЫХ СУВЯЗЯХ

У Мінску 13 сакавіка адбылася III рэспубліканская канферэнцыя Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Яе адкрыў старшыня Прэзідыума таварыства Г. Чарнушчанка, які таксама выступіў пазней са справаздачным дакладам.

У канферэнцыі прынялі ўдзел выдатныя партыйныя, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы БССР, а між іншым, сакратар ЦК КПБ А. Кузьмін, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Лабанок, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Я. Скурко (Максім Танк) і іншыя.

Канферэнцыя прыняла рэзалюцыю і выбрала кіруючыя органы Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Дэлегатаў канферэнцыі сардэчна прывітаў Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, які адзначыў, што Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, якое аб'ядноўвае многія тысячы прадстаўнікоў грамадскасці БССР, уносіць свой уклад у справу ўмацавання дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі, ва ўстанаўленне прынцыпаў мірнага суіснавання дзяржаў з рознымі грамадскімі сістэмамі.

Аб дасягненнях „Белоксу" болей падрабязна праінфармуем чытачоў наступным разам.

### ГАСПАДАРКА БЕЛАРУСІ Ў СТУДЗЕНІ І ЛЮТЫМ 1974 г.

Падведзены вынікі работы прамысловасці БССР у студзені і лютым чацвертага года пяцігодкі. Тэмпы росту прамысловай вытворчасці ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года склалі па ўсёй рэспубліцы звыш 111 працэнтаў. Тэмпы апярэджваюць не толькі планаваныя лічбы, але і тыя, што ўзяты ў сацыялістычных абавязацельствах працоўных Беларускай ССР па датэрміноваму выкананню народна-гаспадарчага плана 1974 года. Найлепшымі вынікамі адзначылася Магілёўская вобласць.

### У ПОЛАЦКУ

Калектыў Полацкага хімічнага камбіната імя 50-годдзя БССР шырока разгарнуў сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне заданняў пяцігодкі. За кароткія тэрміны тут пабудаваны і ўведзены ў эксплуатацыю буйныя вытворчыя магутнасці па выпуску поліэтылену і многіх іншых вырабаў сучаснай хіміі. Прадпрыемства пастаянна разбудоўваецца.

### ЮБІЛЕЙ АРТЫСТА

Грамадскасць Гродна адзначыла 60-годдзе з дня нараджэння і 40-годдзе творчай дзейнасці заслужанага артыста БССР Аляксея Бірычэўскага. На яго творчым рахунку камедыйныя і вострахарактэрныя ролі, буйныя вобразы ў спектаклях пра сучаснасць і па п'есах рускай і замежнай драматургіі. А. Бірычэўскі здымаўся таксама ў кіно —„Рудабельская рэспубліка", „Зімародак" і ў тэлефільмах. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### З ПАБЫЎКІ ЧЭХАСЛАВАЦКІХ ГАСЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ

Візіт чэхаславацкай партыйна-ўрадавай дэлегацыі ў нашу краіну праходзіў у атмасферы дружбы і вялікага зацікаўлення з боку розных груп насельніцтва. Асабліва цёпла прымалі гасцей рабочыя вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў: суднабудаўнічай верфі імя Леніна ў Гданьску, паўночнага порту ў Гданьску, суднабудаўнічай верфі імя Парыжскай камуны ў Гдыні, фабрыкі аўтамашын (ФСО) ў Варшаве. Чэхаславацкія госці з асаблівай увагай цікавіліся польскім Пабярэжжам, паколькі Чэхаславакія многа карыстаецца ў сваім замежным гандлі марскімі партамі Польшчы.

Чэхаславацкая дэлегацыя сустрэлася з жыхарамі Варшавы, а сустрэчу гэту трансліравала польскае тэлебачанне і радыё. Дэлегацыя правяла з польскім партыйна-дзяржаўным кіраўніцтвам размовы, у выніку якіх была падпісана супольная дэкларацыя аб умацаванні дружбы і пашырэнні супрацоўніцтва паміж ПНР і ЧССР.

### НОВЫ АЭРАДРОМ У ГДАНЬСКУ

На Пабярэжжы, дзе расцягнуліся тры гарады, называныя супольна „Труймястам" (Гданьск-Сопат-Гдыня), будзе будавацца новы сучасны аэрадром. На месцы старога ў Гданьску-Вжэшчу ўзнікне новы жылы квартал.

### БЫДГАШЧ У „ПАНАРАМЕ XXX-ГОДДЗЯ"

Пасля Любліна і Беластока ў „Панараме XXX-годдзя" ў Варшаве выступае Быдгаскае ваяводства. Два тыдні жыхары Варшавы будуць знаёміцца з дасягненнямі Паморскай зямлі. Адкрыта вялікая выстаўка гаспадарчых дасягненняў, выступае шмат прафесіянальных і аматарскіх мастацкіх калектываў.

### МАЛАЛІТРАЖНЫЯ

З фабрыкі малалітражных самаходаў у Бельску-Бялай выйшла ўжо (за паўтара года) больш 50 тысяч машын. Другія 50 тыс. машын выпрадукуе фабрыка ў гэтым годзе. Тэмп прадукцыі, як бачым, расце.

### РЭФОРМА АСВЕТЫ

Сеймавая пастанова аб рэформе асветы будзе прынята ў 1975 годзе. У 1978 годзе пачнецца рэалізацыя дзесяцігадовай сярэдняй агульнай школы і будзе яна ўводзіцца пяць год. Штогод новая праграма будзе ўводзіцца ў два класы: I і VI, II і VII, III і VIII, IV і IX, V і X. Першыя выпускнікі выйдуць з дзесяцігодкі ў 1983 годзе.

### ПЛЕНУМ ЦК СД

Адбыўся Пленум ЦК СД, прысвечаны ўдзелу ў рэалізацыі заданняў гэтай арганізацыі ў XXX-годдзі ПНР. ЦК прыняў праграму.

### БОЛЬШАЯ ПЕНСІЯ ДЛЯ СЯЛЯН

У Міністэрстве сельскай гаспадаркі і ў Міністэрстве працы, зарплаты і сацыяльных спраў вядуцца работы над праектам пастановы аб лепшых умовах перадачы зямлі сялянамі за пенсію. Пенсія за зямлю будзе большая, чым цяпер. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### З'ЕЗД ЗБоВіД

12 сакавіка ў Беластоку адбыўся VI акруговы з'езд дэлегатаў Саюза змагароў за свабоду і дэмакратыю (ЗБоВіД). Сярод запрошаных гасцей былі II сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч, віцэ-міністр Упраўлення па справах ветэранаў С. Куйда, генеральны сакратар ГП ЗБоВіД І. Краеўскі, беластоцкі ваявода З. Спрыха і іншыя. Вёў пасяджэнне старшыня ВК ФАН С. Кудла. З дакладам выступіў дагэтуляшні прэзас акруговага праўлення ЗБоВіД палк. Я. Анацік. На з'ездзе гаварылася аб ўмацаванні арганізацыі ў апошнія гады, аб узросце яе аўтарытэту і ролі ў выхаванні моладзі, аб большай актыўнасці вясковых груп, аб сацыяльна-бытавых справах членаў. За актыўную дзейнасць беластоцкі аддзел арганізацыі ўзнагароджаны ганаровай адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны". З'езд выбраў новыя ўлады. Прэзасам акруговага праўлення ЗБоВіД стаў камендант Ваяводскай міліцыі палк. Б. Нарэнгоўскі. З'езд выслаў тэлеграму тав. Э. Герку і тав. П. Ярашэвічу з падзякай за апеку над ветэранамі і з абяцаннем, што беластоцкая арганізацыя ЗБоВіД не пашкадуе сіл для выканання пастаноў VI з'езду і I краёвай партканферэнцыі.

### КОНКУРС ПАДСУМАВАНЫ

У верасні мінулага года, у гонар 30-годдзя ЛВП, быў аб'яўлены конкурс на найлепшы пакой народнай памяці. У час падсумавання конкурсу аказалася, што найлепшыя пакоі народнай памяці знаходзяцца ў гмінных школах у Ліпску (Дуброўскі павет), Клюкове (Высокамазавецкі павет), Візне (Ломжынскі павет), у падставовай школе № 2 ў Сямяцічах і ў медыцынскім ліцэі ў Ломжы. Адзначаны таксама добрыя пастаянныя стэнды — куткі народнай памяці ў Бельскім беларускім ліцэі, у геадэзійна-дарожным тэхнікуме і падставовай школе № 9 у Беластоку.

### ПАВЯТОВЫЯ З'ЕЗДЫ

У паветах Беласточчыны праходзяць з'езды дэлегатаў сельскагаспадарчых гурткоў. Тэма з'ездаў — далейшае ўмацоўванне арганізатарскай ролі сялянскіх самаўпраўленняў, інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці і забеспячэнне вёсцы механічных паслуг.

### ПАЖАР

Страшны пажар здарыўся нядаўна ў нашым ваяводстве. Згарэла вёска Войны-Шубы Власцянскія Высокамазавецкага павету. Хоць на пажар з'ехалася некалькі дзесяткаў пажарных машын, згарэла больш ста будынкаў, больш сотні свіней, шэсць кароў і конь. Прычынай пажару, як думаюць спецыялісты, было дрэннае забеспячэнне коміна. Як бачым, нейчая нядбайнасць стала прычынай трагедыі ўсёй вёскі. Многія прадпрыемствы Беласточчыны выказалі ахвоту дапамагчы пагарэльцам.

### СМЕРЦЯНОСНАЯ „ЦАЦКА"

Трое хлопцаў 13—14 гадоў з вёскі Жыткеймы Галдапскага павету знайшлі заіржавелы снарад, які праляжаў тут з часоў II сусветнай вайны. Забава са снарадам скончылася трагічна: трое хлопцаў і двое малых, што сядзелі побач, былі цяжка паранены. (яч)




**Niedziela 24.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.15 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.35 „Alarm przeciwpożarowy trwa". 8.45 „Bieg po zdrowie". 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 PKF. 10.30 „Sierra" — film St. Szwarc-Bronikowskiego. 11.05 „Antena". 11.20 Reportaż filmowy. 11.55 Dziennik. 12.10 „Muzy bez etatu". 12. Program wiejski. 13.10 „Ku brzegom dalek[illegible] Oceanii" — film dok. radz. („Czas i ludzie"). 14.10 „Radar". 14.20 Dla dzieci: A. Puszkin — „Bajka o rybaku i złotej rybce". 14.55 „Ex libris". 15.05 „My-74" — teleturniej. 16.05 Losowanie Toto-Lotka. 16.20 Studio Muzyki Rozrywkowej. 16.50 Estrada Poetycka: Poezja Polska — J. Tuwim — „Kwiaty polskie". 17.05 Program rozrywkowy. 18.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Szkoła uczuć" — film franc. odc. IV. 21.15 „Porachunki małżeńskie". 22.05 Informacyjny magazyn sportowy. 22.50 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek, 25.III.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Białostocki. 18.10 „Oferty". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: „Olśniewające słońce niesprawiedliwości" wg W. Weideli. 21.50 „Merkury 74". 22.20 Gra Laszlo Szendrey-Karper — gitara. 22.40 Dziennik.

**Wtorek, 26.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 9.00 „Szkoła uczuć" — film franc. odc. IV. 9.55 „Z wizytą w Sumgaicie" — film dok. radz. 10.05 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film TV radz. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Śpiąca królewna" — film NRD. 17.05 „Spacerkiem po kinach". 17.35 Dla młodzieży: — spotkanie z E. Bryllem — „Trójka na cenzurowanym". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Szare na złote". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film TV radz. 21.30 „Interstudio 20". 22.00 Wiadomości sportowe. 22.05 „Stary jazz i nowe piosenki" — program estradowy. 22.50 Dziennik.

**Środa, 27.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 8.55 „Ballada o młodym chłopcu i starym mężczyźnie" — film fab. węg. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „O polskie słowo". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: Harcerski raport. 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 Informacje, Towary, Propozycje. 17.35 „Laboratorium 74". 18.05 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.25 Transmisja II połowy międzynarodowego meczu piłki nożnej Kadra (Polska) — Fortuna (Düsseldorf). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Nagonka" — film TV czechosł. („Łuk tęczy"). 20.50 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 28.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 9.25 „Nagonka" — film TV czechosł. („Łuk tęczy"). 10.00 „Pomyłka" — film fab. ameryk. 13.15 TV Kurs Informatyki. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 15.05 Matematyka w szkole: Ćwiczenia arytmetyczno-geometryczne w sieci kwadratowej — cz. II. 16.15 Program dnia. 16.20 PKF. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.50 „Wiem wszystko" — teleturniej. 18.15 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.35 „Prosto z Polski" — program publ. 19.00 TEST — „Rynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Pomyłka" — film fab. ameryk. 22.05 Wiadomości sportowe. 22.15 „Hallo — kto mówi" — III odc. 22.45 Dziennik. 23.00 Informacje, Towary, Propozycje.

**Piątek, 29.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 9.55 „Własne zdanie" — film fab. bułg. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Ochrona środowiska". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysposobienie obronne — „Środki indywidualnej ochrony". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.20 „Turystyka i wypoczynek". 17.45 Dla młodzieży: — Tygodnik informacyjny Młodych — „Dwie szkoły" — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Rekonesans w przyszłość". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Ryzykanci" — film dok. ameryk. (kolor) odc. I. 20.45 „Panorama". 21.25 Wiadomości sportowe. 21.30 Międzynarodowy Dzień Teatru: „Spotkanie z Melpomeną". 22.35 Dziennik.

**Sobota, 30.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 9.05 „Adela" — film ang. („Rodzina Straussów") odc. ostatni. 10.00 Filmy z Marleną Dietrich: „Siedmiu grzeszników" — film fab. ameryk. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Pochodzenie i ewolucja człowiekowatych". 13.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.00 Program dnia. 15.05 Program I proponuje. 15.20 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.35 Telereklama. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: „Sobótka". 16.30 Dla młodzieży: „Balet". 17.10 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Adela" — film ang. („Rodzina Straussów") odc. ostatni. 18.45 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Filmy z Marleną Dietrich: „Siedmiu grzeszników". — film fab. ameryk. 21.45 Mała scena Teatru Rozrywki: „Węzeł rodzinny". 22.35 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe. 23.15 „Canzonissima" — program rozr. wł.




**Piątek, 22 marca**

15.15 Program dnia. 15.20 Dla dzieci. 16.00 Panorama nowin. 16.30 Filmy animowane. 17.10 Zdrowie. 17.45 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.20 Sala tańców. 20.50 Sport. Szermierka.

**Sobota, 23 marca**

7.00 Program dnia. 7.30 Koncert. 8.50 Program muzyczny. 9.20 Film fab. 10.50 Przegląd międzynarodowy. 11.15 Podróże TV. 12.35 W świecie zwierząt. 13.35 Wieczór autorski S. Michałkowa. Transmisja z Sali Kolumnowej. 16.15 Filmy animowane. 16.45 Cyrk. 17.30 Film dokument. 17.55 Spektakl muz. 19.00 Czas. 19.30 c.d. spektaklu. 20.30 Sport. Gimnastyka.

**Niedziela, 24 marca**

7.00 Program dnia. 11.30 Film fab. 14.05 Almanach TV. 15.00 Program międzynarodowy. 15.30 Filmy animowane. 16.15 Koncert życzeń. 16.55 Klub filmowy. 18.05 Teatr miniatur. 19.00 Czas. 20.30 Sport. Gimnastyka.

 

# Багаты вечар у Ляневе



*Галя Грыгарук з Лядаў — салістка эстраднага калектыву з гуртка БГКТ у Ляневе.*



*Надзя Базылюк — старшыня гуртка БГКТ у Ляневе.*



*Галя Карзуновіч — сакратар гуртка БГКТ у Ляневе, старшыня гуртка ТППР у Лядах.*

На Гайнаўшчыне адбылося многа бэгэкатоўскіх мерапрыемстваў — усе ў гонар XXX гадавіны ПНР.

Пару слоў аб урачыстым вечары ў вёсцы Лянева. На сваю ўрачыстасць бэгэкатоўцы з Лянева запрасілі намесніка старшыні праўлення аддзела ў Гайнаўцы Мікалая Суліму. Падрыхтавалі багатую мастацкую частку. Была пастаўлена п'еса „Суд", былі песні і вершы.

Культурна-асветнай працай тут кіруе Надзя Базылюк. Ёй дапамагае шырокі актыў, да якога належыць Галіна Карзуновіч, Пётр Карзуновіч, Анатоль Лапінскі, Пётр Базылюк, Мікалай Іванюк, Ніна Тапалянская, Марыя Кацельчук, Галіна Грыгарук, Ольга Базылюк.

Школьны зал, дзе адбывалася ўрачыстасць, быў запоўнены гасцямі і сваімі. Спявала Лідзія Раманюк з Чаромхі-вёскі. Яе песні вельмі спадабаліся. У Ляневе выступіла па запрашэнню сяброў і сяброўак у рамках супрацоўніцтва паміж гурткамі БГКТ.

Вельмі дапамог падрыхтаваць вечарыну дырэктар мясцовай школы Юрка Койла.

**В. Бура**

# Гайнаўскі ПЗГС

Да аднаго з лепшых ПЗГС-аў на Беласточчыне залічваецца Гайнаўскі ПЗГС. У мінулым годзе ён значна перавыканаў свае планы. І так, у галіне гастраноміі план быў выкананы ў 101,4% (з дынамікай развіцця 114,4%), у дэталічным забеспячэнні крамаў у 101% (з дынамікай 109,6%). Пякарні выканалі гадавы план у 110,6% (дынаміка 111,3%), масарні — у 112,7% (дынаміка 130,7%) і ў кантрактацыі зернавых культур — у 110%. У мінулым годзе на заклік партыі даць 30 мільярдаў дадатковай прадукцыі на рынак, Гайнаўскі ПЗГС даў яе на 6 мільёнаў 532 тысячы зл.

На Гайнаўшчыне ў мінулым гаспадарчым годзе ўпершыню купля мінеральных угнаенняў была рэалізавана ў 100%. Сёлета ўжо на 31 студзеня план быў выкананы ў 66%. Ёсць усе падставы меркаваць, што да канца чэрвеня (да канца гэтага гаспадарчага года) купля сялянамі мінеральных угнаенняў таксама значна будзе перавыканана, паколькі цяпер ПЗГС сваім транспартам прывозіць сялянам мінеральныя ўгнаенні. Варта сказаць і аб тым, што ў мінулым годзе Гайнаўскі ПЗГС атрымаў 20 тысяч зл. узнагароды, а ГС у Кляшчэлях — 8 тысяч зл. узнагароды за тое, што вельмі добра справіліся з парадкаваннем і аднаўленнем крамаў.

ПЗГС пад кіраўніцтвам Пятра Бурылы прысвячае многа ўвагі дзейнасці кіраўнічых кадраў ў ГС-ах. (мх)




# ПОМСТА ГАПКІ

Бывае ж! Ледзьве выкарабкаўся з пакутніцкіх кругоў курорта, як улез у новую чысцілішчную спіраль. Было гэтак. У час свайго адпачынку выбраўся я ў горад Н. і... убачыў Гапку. Не, не прывід. Жывую. Ехала ў „Волзе".

Як кіпенню апарыла. За астаўшыеся да ад'езду дні чаго толькі ў галаву не прыпляталася. Еду дахаты і думаю: а сустрэне, нябось, як нічога і не было: не ведае, якую штуку згуляў з ёю лёс.

І сапраўды, Гапка сустрэла мяне нармальна. З яе твару не вычытаў ніякіх згрызот сумлення. Артыстка! Талент маскіравання! Проста ўцяміць не мог, што пасля таго, што здарылася, можа так адкрыта глядзець мне ў вочы. Пачакай, пабачым, як заспяваеш зараз.

— Гапка, што ты рабіла ў горадзе Н? — пытаю.

Усмешка, перайшоўшая ў заклапатанне (Ага! Не чакала?)

— У якім горадзе? — прыкідваецца наіўнай.

— Не рабі з сябе дурня! Што рабіла 500 кіламетраў ад Задрыпанкі?

— Ты праўду? — суравее Гапка. — Хто табе набрахаў?

— Бачылі там цябе.

— Ну і людзі! Якая подласць! — абураецца Гапка.

— Спакойна, — асаджваю яе. — Крыніцы надзейныя.

— І ты ім паверыў? — з крыўдай гаворыць Гапка.

Тут паружавеў партрэт Гапкі, які я намаляваў у змрочных думках, і мне стала яе шкада. Але сказаў:

— Паверыў. Бо не паверыць не мог. Сам бачыў.

Гапка, замест каяння, пачала плакаць. Штось падобнага! Не спадзяваўся. У яе слязах убачыў я расчараванне і гэта яшчэ больш мяне збіла з панталыку, аднак сказаў:

— Ты мяне плачам не возьмеш. Бачыў жа я цябе ў горадзе Н. уласнымі вачыма! Дык чаго круціш.

— Не была я там! — з адчаем крыкнула Гапка.

— Не была? Значыць, гэта я ўсё выдумаў? Каб паздзекавацца над табой, га? — не здаваўся я, адчуваючы адначасова, што аргументы мае вычарпаліся. На момант здалося нават, што наведанне Гапкай горада Н. — дурны сон.

З хістання вырвала сама Гапка. — Ведаеш, — сказала яна спакойна, — калі муж жонцы не верыць і абвінавачвае яе ў здрадзе, дык яна і сапраўды пачне здраджваць.

І стала дапытвацца, як яна выглядала ў горадзе Н.

І зноў запякло ў грудзях. Перад вачыма з'явілася чорная „Волга". І Гапка, з якою толькі што гаварыў, сядзіць за шыбай машыны. Цюцелька ў цюцельку. „Ты, Гапка?" — пытаю. „Не, гэта не я", — адказвае. Абліваюся потам. „Волга" ад'язджае, а я, спацелы, слухаю Гапкінага тлумачэння. Паводле яе, у той Гапкі і куртка іншая, і шапачка, і грыўка, і нават нос не такі.

Чортавая спіраль пачала заціскацца. На другі дзень Гапка прывяла рахункавода ГС. Ён сцвердзіў, што другога дня пасля майго ад'езду ў дом адпачынку, Гапка была ў яго (брала квітанцыі на штучнае ўгнаенне), значыць, не магла быць у горадзе Н.

Калі рахункавод выйшаў, кажу:

— Гапка, што ты нарабіла?! Навошта прывяла гэтага плёткавода? Заўтра ўся Задрыпанка будзе ведаць пра мой сорам. Ды я прэтэнзіі не маю за другі дзень твайго саламянага аўдавення.

Гапка маўчыць. А наступнага дня прыносіць даведку ад старшыні ГС, у якой наш Гермес „гэтым засведчвае", што грам. Г.З. на трэці дзень пасля ад'езду свайго мужа ў дом адпачынку правяла з ім, г. зн. з старшынёй Г. С., востры абмен думак па прычыне адсутнасці ў гэесаўскім складзе поўнага асартыменту штучных угнаенняў, значыць, не магла яна адначасова дэбашырыць у горадзе Н.

Які сорам!

Прашу прабачэння, усю віну ўзвальваю на сябе — нічога не памагае: Гапка з упартасцю зацвярдзелага педанта дастаўляе ўсё новых сведкаў сваёй невінаватасці. Разлічваецца за кожны дзень. І замест рассейваць чорныя хмары падазрэнняў, згушчае іх, насычваючы чысцілішчную спіраль новым узрыўным токам.

Рабіце вывады, чытачы: калі злавілі любую на гарачым учынку — не верце сваім вачам!

**ДЗЗ**

# З жыцця варшаўскага аддзела БГКТ

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У студзені і ў пачатку лютага г.г. у памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ экспанавалася цікавая мастацкая выстаўка карцін Пятра Шпаковіча. Аўтар экспазіцыі, ураджэнец Белавежы, закончыў Акадэмію мастацтваў у Варшаве і паспяхова працуе ў студыі мультыплікацыйных фільмаў, шмат якіх дэманструецца ў тэлебачанні і ў кінатэатрах. Праца ў кінастудыі займае шмат часу, і таму толькі ў вольныя хвіліны таленавіты мастак займаецца жывапісам, вычароўвае на палотнах мінулы і сённяшні дзень Белавежскай пушчы. Гэтай тэматыцы была прысвечана апошняя выстаўка.

Ацаняючы выстаўку, варта спаслацца на выказванні яе наведвальнікаў, упісаныя ў памятную кніжку.

„Выстаўка П. Шпаковіча сведчыць аб тым, якая вялікая сувязь існуе між чалавекам і мясцовасцю, дзе ён нарадзіўся і пражыў дзіцячыя гады. Каларыт Белавежскай пушчы выглядае з кожнага малюнка..." (С. Гайдучэня).

„Выстаўка, шчыра кажучы, мяне захапляе. Асабліва вялікае ўражанне зрабілі на мне палотны, на якіх прадстаўлены рыбак, паляванне на зуброў, кветкі і чарада кароў у Белавежскай пушчы. Думаю, што мастак вельмі добра спалучыў сучаснае мастацтва з рэалізмам і прадставіў усю прыгажосць Белавежскай пушчы". (Хв. Галёнка).

## ГАРАДЫ СССР

Актывіст варшаўскага аддзела БГКТ др Хведар Галёнка пяць гадоў працаваў у Маскве ў Савеце ўзаемадапамогі сацыялістычных краін. Летам мінулага года сваёй машынай зрабіў падарожжа па Украіне, Беларусі і Прыбалтыцы. Вынікам гэтага падарожжа з'яўляюцца цікавыя вузкаплёначныя каляровыя кінафільмы „Гарады СССР". 1 лютага г.г. у памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ Хв. Галёнка дэманстраваў свае кінафільмы з каментарыем. Гледачы пазнаёміліся з найбольш каштоўнымі архітэктурнымі помнікамі гарадоў Беларусі, Украіны і Літвы.

## АЎТАРСКІ ВЕЧАР

8.II. г.г. ў памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ адбыўся аўтарскі вечар Янкі Чыквіна, беларускага паэта з Беластока, члена Саюза польскіх пісьменнікаў.

Паэт чытаў свае новыя вершы. Па просьбе слухачоў прыпомніў ён таксама некаторыя вершы з паэтычных зборнікаў „Іду" і „Святая студня".

Слухачы ў сваіх выступленнях далі высокую ацэнку паэтычнай творчасці Я. Чыквіна, заахвочваючы адначасова паэта да гістарычнай тэматыкі і сённяшняга дня беларускага насельніцтва ў Польшчы.

На заканчэнне Я. Чыквін падпісаў слухачам 22 экземпляры сваіх паэтычных зборнікаў.

## ГРАМАДСКІ БЕЛАРУСКІ ТЭАТР

Група энтузіястаў беларускага сцэнічнага слова пастанавіла стварыць пры варшаўскім аддзеле БГКТ Грамадскі беларускі тэатр. Кіраўніком тэатра з'яўляецца Язэп Валюкевіч.

Адбываецца набор кандыдатаў.

**В. Ш.**



*Родны краявід.* *Фота А. Карпюка*

# ПАСЫНАК ГМІНЫ

Ёсць у вёсцы Лука Гайнаўскага павету вясковы клуб. Клуб, якіх нямала: у звычайнай вясковай хаце наняты адзін пакойчык, у ім некалькі полак і габлётка „Руху" з рознай драбязой на продаж, тэлевізар, шафа, гучна званая бібліятэкай, некалькі старэнькіх крэслаў, пару столікаў і над усім гэтым — кіраўнічка клуба Раіса Карольчук.

У клубе збіраецца вясковая моладзь, дзяўчаты і хлопцы, ахвотныя чым-небудзь цікавым заняцца, карысна правесці свабодныя хвіліны. Але дзе? У клубе-куточку, ад змяркання да позняга вечара запоўненым тэлегледачамі? Слова „запоўнены" ў гэтым выпадку вельмі лагоднае. Людзі сядзяць на крэслах, на сталах, а большая частка проста стаіць, каб толькі паглядзець тэлевізійную праграму. Вёска вялікая, людзей многа, а пакоік клубны маленькі. Людзі прыходзяць глядзець тэлевізар, іх жа не выганіш! Якія ж мерапрыемствы можна арганізоўваць у такіх умовах?

Клубны пакойчык даўно ўжо патрабуе рамонту. І не дзіўна. У такой таўкатні папяровыя тапэты хутка нішчацца. Кіраўнічка клуба прасіла-прасіла ў Нараўкаўскай гміне хоць з пару соцень злотых на новыя тапэты, не дапрасілася. Купіла за свае грошы, і з дапамогай сяброў зрабіла ў клубе парадак. Але час ідзе, і клуб зноў паабдзіраны. А грошай зноў няма.

Моладзь актыўна адгукаецца на кожны заклік. Будуюць дарогі, дапамагаюць у палявых работах, асабліва ў жніво адзінокім людзям, з першымі веснавымі днямі рыхтуюцца выйсці на пасадку дрэў уздоўж дарог. Але ўсё гэта грамадскім чынам, а зарабіць хоць бы на рамонт клуба не могуць. Няма дзе. Няма месца нават, каб зрабіць платную забаву. Гаворачы аб сваіх клопатах, маладыя не могуць дараваць былому сельгасгуртку. У Луцэ раней была жвіроўня — уласнасць вёскі. Яе прадалі, а грошы трапілі ў сельгасгурток. Тады ж была і аказія купіць будынак для клуба. Але нічога з гэтага не выйшла. Цяпер у вёсцы ліквідаваны сельгасгурток, бо прыносіў страты. А супольныя грошы за жвіроўню? Іх няма, зніклі разам з гуртком. Можа пайшлі на пакрыццё страт? Цяжка сказаць. Прынамсі, моладзь аб гэтым нічога не ведае. Цяпер моладзь не мае за што нават купіць трошкі матэрыялаў, каб зрабіць так званую „патэльню" — пляцоўку для танцаў. Да каго ж можа звярнуцца моладзь з Лукі? Хто ім дапаможа?

Гміна далёка, ледзь не за гарамі. Не вельмі прыслухоўваецца яна да тоненькага голасу з далёкай Лукі. А кіраўнічка клуба? Яна піша пісьмы ў гміну, бо за дзевяць кіламетраў часта не набегаешся. А пісьмы што? На іх можна не адказваць. Людзі кажуць, што як вочы не бачаць, дык і душа не баліць. Нават тавары падкідваюць раз на некалькі месяцаў. А ўжо аб чымсьці такім, як аранжада ці кава, дык людзі і не памятаюць, калі апошні раз бачылі ў клубе.

Праўда, не ўсе з гміннага цэнтра забыліся пра клуб. Бібліятэкарша з Нараўкі, напрыклад, прыязджала сюды аж два разы. Каб праверыць, ці ў бібліятэчную шафу кіраўнічка клуба часам не паклала беларускія кніжкі, хоць шафа тая стаіць паўпустая. Бо якім жа правам могуць тыя кніжкі ляжаць разам! Яшчэ, чаго добрага, паб'юцца! Выкінула пані Савіцкая беларускія кніжкі з шафы і папярэдзіла, што прыедзе праверыць, ці больш іх туды не паклалі. І прыехала, а як жа! І яшчэ раз выкінула!

Надзвычайныя клопаты праяўляе нараўкаўская бібліятэка пра сваю ўласнасць (шафу)!

Цяпер беларускія кніжкі, падарунак Беларускага таварыства для клуба, ляжаць у кутку на падлозе пад сталом, хоць дзве паліцы ў бібліятэчнай шафе зусім пустыя. Кіраўнічка клуба не адважылася далей не слухацца свайго начальства. А беларускія кніжкі чытачы і з-пад стала някепска пазычаюць. Абы цікавыя былі.

Сумная справа. Але моладзь, як моладзь, заўсёды поўная аптымізму. Цешацца дзяўчаты і хлопцы, што вясна блізка. Тады можна будзе збірацца і на лавачцы пад клёнам.

А клуб? Можа і на яго прыйдзе лепшы час.

**Яніна Чэрнякевіч**



 

Пачатак на стар. 1




Згодна з правіламі конкурсу ацэнка праводзілася ў дзвюх катэгорыях: фальклорнай песні і сучаснай песні. У кожнай катэгорыі былі тры групы: салісты, дуэты і калектывы. У кожнай катэгорыі і групе прадбачваліся тры месцы. Пры ацэнцы бралі пад увагу вакальныя магчымасці выканаўцы, інтэрпрэтацыю ім твора і выбар рэпертуару.

У катэгорыі **фальклорнай песні** ў групе **салістаў першае** месца заняла **Цацэрка Зоф'я** з Баброўнікаў Беластоцкага павету (узнагарода рэдакцыі штотыднёвіка „Ніва" салісту за найлепш выкананую народную песню), другое месца — Стахіюк Анна з Трасцянкі Гайнаўскага павету (узнагарода ВСС „Сполам", II аддзяленне ў Беластоку), у групе **дуэтаў першае** месца занялі сёстры **Манцюк Марыя і Вера** з Мікуліч Сямяціцкага павету (узнагарода аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення), другое месца Сак Марыя і Домань Клаўдзія з Новай Волі Беластоцкага павету (узнагарода прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух") і трэцяе месца — Жарначук Яўген і Чабан Янка з Паўночнага Вострава Сакольскага павету (узнагарода Ваяводскага праўлення Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі), у групе **калектываў першае** месца заняў **актэт** з **Дубяжына** Бельскага павету: Аляксандр Раманюк, Янка Томчук, Мікалай Раманюк, Сяргей Супронюк, Мікалай Раманюк, Янка Томчук, Пётр Ігнацюк і Уладзімір Шаратуха (узнагарода аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення), другое месца — актэт з Варшавы: Васіль Літвінюк, Пётр Жарначук, Расціслаў Беламызы, Славамір Тамашук, Юрка Галёнка, Васіль Дубец, Багдан Грыгарук і сёстры Туронак (узнагарода ГП БГКТ), два раўназначныя трэція месцы занялі фальклорны квартэт з Арэшкава — Вера Кошаль, Анна Парфенюк, Ніна Авэрчук, Таццяна Гурын, і маладзёжны актэт з Чарэмхі — Мар'я Кас'янюк, Галіна Кушнерчук, Галіна Мусюк, Ірэна Акочук, Аліцыя Праховіч, Валянціна Раманюк, Міраслава Селех, Марыя Вашчук (дзве ўзнагароды ваяводскага праўлення Саюза дабравольных проціпажарных каманд).

У катэгорыі **сучаснай песні** ў групе **салістаў першае** месца заняла **Аліцыя Хаванская** з Беластока (узнагарода ГП БГКТ), другое месца — **Аляксандр Бандарук** са Старога Ляўкова Гайнаўскага павету (узнагарода ГП БГКТ), трэцяе месца — Мікалай Парфенюк з Вулькі Нурэцкай Сямяціцкага павету (узнагарода прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух", у групе **дуэтаў першае** месца занялі **Ірэна Паўлючук** і **Лідзія Максімюк** з Плёскаў Бельскага павету (узнагарода аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення), другое месца — Люба Гаўрылюк і Яўгіння Мінько з Беластока (узнагарода прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух"), трэцяе месца — Ніна Мушынская і Яўгіння Паўлючук з Гарадка Беластоцкага павету (узнагарода Ваяводскага праўлення Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі), у групе **вакальных калектываў першае** месца заняў **квінтэт з Гарадка** Беластоцкага павету: Раіса Дылько, Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Ірына Паўлючук і Вольга Мядзведзева, другое месца — квартэт з Плёскаў Бельскага павету: Ірына Паўлючук, Лідзія Максімюк, Зоф'я Бала і Вольга Амельянчук (узнагарода ГП БГКТ), трэцяе месца — маладзёжны актэт з Гайнаўкі: Галіна Конах, Ірына Заброцкая, Ірына Шыманюк, Лідзія Раманюк, Серафіма Кердэлевіч, Надзея Казачук, Галіна Кердэлевіч і Люба Секан (узнагарода аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення).

Пасля конкурсу яго ўдзельнікі выступілі з дадатковым паўтарагадзінным канцэртам.

Як заўсёды, элегантна вяла агляд **Валянціна Філіпюк.**

Ва ўспрыняцці выканаўчага майстэрства ўдзельнікаў агляду выявілі таксама сваю высокую культуру слухачы, што запоўнілі да апошняга месца разлічаную на 500 чалавек глядзельную залу. Шкада, што звыш 200 асоб, жадаючых паслухаць агляд, вымушаны былі адысці з-пад дзвярэй з-за недахопу месц.

Агляд „Песня-74" быў прыгожым, уданым і добра арганізаваным мастацкім мерапрыемствам. Ён даставіў многа ўражанняў і повадаў да разважанняў над яго вынікамі, але аб гэтым — у наступным нумары „Нівы".

**Ігнат Снарскі**
**Фота А. Карпюка**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### ДОБРЫ ПАЧАТАК



У канцы мінулага года ў Дуброве была аддадзена ў карыстанне сілавая зала (сілоўня). Пабудавалі яе за суму 850 тысяч злотых. На месцы знаходзяцца тут склады, зал з чатырма памостамі для штангістаў, душ, уборная, пакой трэнераў. Карыстаюцца з сілавой залы спартсмены з Дубровы і з ЛЗС-аў з навакольных вёсак. Пасля трэніровак штангістаў прыходзяць сюды на заняткі ахвотныя займацца настольным тэнісам.

20 студзеня гэтага года ў сілавой зале адбыўся першы конкурс на найлепшага вясковага асілка. Карыстаўся ён вялікім зацікаўленнем балельшчыкаў спорту з Дубровы. Наймацнейшым аказаўся Міраслаў Дзермах з Вострава каля Дубровы, які паднімаў уверх 40-кілаграмовую гіру 50 разоў. Уступілі яму першынства наступныя асілкі: Янка Громак з вёскі Кругло, Янка Дзермах з Вострава, Яўген Цюрук і Вінцук Цвіліх з Дубровы. У гэтым спартыўным мерапрыемстве прымала ўдзел 15 вясковых асілкаў.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

### КАМУ ГЭТА БЫЛО ПАТРЭБНА?

Пэўна, многія з пасажыраў, якія чакаюць аўтобуса ў Заблудаве Беластоцкага павету, задае сабе такое пытанне. Пытанне рытарычнае. Вось на аўтобусным прыпынку стаіць пачакальня для пасажыраў. Некалі яна была адноўленая, чыстая, нават нябрыдкая. Найважнейшае, што было куды зайсці і затрымацца, калі дождж ліў за каўнер або веяла холадам. Цяпер тут няўтульна, па спіне дрыжыкамі праходзяць скразнякі. Няма тут усіх вакон. Яны пабіты і некуды вынесены. У галаву так і ціснецца пытанне: навошта і каму гэта было патрэбна?

Людзі сюды часамі заходзяць... і дзівуюцца, што ў Заблудаве існуе такі вандалізм і хуліганства.

На нашу думку, пара аднак узяцца за рамонт пачакальні. Яна ж у цэнтры мястэчка, у якім крыжуюцца дарогі ў сталіцу нашага ваяводства — Беласток, у сталіцы паветаў — Бельск, Гайнаўку, Сямяцічы, у мястэчка Міхалова і куды яшчэ толькі.

(ця)

### АКТЫЎНЫЯ КГВ

У Беластоцкім павеце дзейнічаюць 254 гурткі вясковых гаспадынь з 4.875 членамі. У многіх гуртках пабольшала членаў, напрыклад, у Залешанах і Навасадах. КГВ арганізуюць у вясковым асяроддзі розныя мерапрыемствы. Улетку арганізуюць яны вясковыя дзяцінцы. І так, у мінулым годзе было іх 33. Усе з поўным харчаваннем. Былі яны таксама забяспечаны палаткамі і лежакамі за суму 500 тыс. зл. Сярод іх найлепш працавалі дзяцінцы ў Юроўцах, Сахонях, Дабжыневе Вялікім, Новым Александрове, Войшках і Мялешках.

У зімовы перыяд вясковыя жанчыны арганізуюць кулінарныя або кравецкія курсы. Кулінарныя курсы за апошнія месяцы адбыліся ў 30 КГВ. З асаблівым поспехам праходзілі заняткі ў Плянтах, Бахурах, Навасадах, Агародніках, Злотніках, Румэйках, Асовічах. Кравецкія курсы арганізавалі жанчыны з Сабалева і Тапалян. Цяпер лёгкую вопратку шыюць яны самі сабе як сапраўдныя краўчыхі.

Сёлета ў гонар святкавання XXX гадавіны ПНР вясковыя жанчыны Беластоцкага павету абавязаліся пасадзіць у сваіх агародчыках па 30 ружаў кожная.

**Тэкст і фота Ц. Я.**



*Жанчыны з Асовічаў на занятках кулінарнага курсу.*

## Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦЁТКА — ЧАСТКА VII

Ідэйны пералом у творчасці Цёткі наступіў у канцы 1904 года. Пералом гэты меў даволі нечаканы характар. Яшчэ ў адным з апошніх вершаў з 1904 года „Мужык не змяніўся" праявіліся пацыфістычныя прымірэнцкія ідэі. Герой верша — беларускі селянін не здольны да якога-колечы дзеяння. Палепшэння долі чакае ён з неба. Бог урэшце злітаваўся над лёсам беларуса і заспакоіў яго патрэбы.

„І бог з неба глянуў,
Глянуў, задзівіваўся,
Што за гэту пору
Мужык не змяняўся.
— Ну ты, — кажа, — сынку,
Прасі, што патрэба,
Усім абдарую,
Усё пашлю з неба".

Селянін папрасіў хату, кабылу, багатую жонку, свінню, курэй і зямлю:

„Буду сабе панам,
Разлучуся з горам
На век вякоў. Амэн".

Бачым, што верш гэты напісаны ў стылі наіўнага народніцка-хлапаманскага вершыка, пісанага інтэлігентам для селяніна.

І тут наступіў нечаканы пералом. Наступны ўжо верш Цёткі „Музыкант беларускі", напісаны ў тым жа 1904 годзе, выяўляе зусім новыя ідэі і імкненні. У вершы гэтым няма нават і следу містычных апеляцый у адрас неба. Праблематыка твора толькі знешне рамантычная, бо звязаная з постаццю адзінокага музыканта, але як жа моцна абапіраецца на беларускае грамадска-палітычнае жыццё! Верш канчаецца вымоўнай страфой, якая прадвяшчае класавую буру:

„Музыкант галосіць,
Скрыпка не махлюе,
Хутка „хамску" песню
Увесь свет пачуе".

І сапраўды, уся творчасць Цёткі з 1905 і часткова з 1906 года была формай спявання бунтарнай, „хамскай", сялянскай песні. Супраць каго накіравала яна сваю рэвалюцыйную творчасць? Галоўныя атакі павяла паэтэса супраць Расійскай імперыі — турмы народаў і памешчыцтва — галоўнай падпоры імперыі і галоўнага ворага селяніна. Якая ж пераканаўчая, яскравая, хаця і простая ў сваім паэтычным выразе карціна барацьбы ўсіх народаў з рускім самаўладдзем створана ў вершы „Хрэст на свабоду":

„З той пары Масква, Варшава,
Рыга, Вільня, Бак, Лібава,
Беларусь, Літва, Расея
Гоняць вон цара зладзея!
Народ чуе голас з неба,
Што больш цара не патрэба".

Як жа новы тып селяніна паказвае Цётка ў вершы „Ласы"! Герой твора гатоў аддаць апошнюю залатоўку за кулі і шрот, а ад „сацыялістаў" чакае ён не толькі лістовак, але і пісталетаў.

Стылістычнай навіной адрозніваецца верш „Пад штандарам". У змесце гэтага твора захоўваецца катэгарычнасць тэксту і рашучасць ідэй. Пры гэтым аднак у верш увяла Цётка элегійныя элементы, звязаныя са смерцю героя — беларускага селяніна, загінуўшага ў час рэвалюцыі.

„Не плач, матуля,
Не сурдуй татуль,
Што забілі Вінцуля,
Што не прыдзе адтуль".

Аб фармальнай навіне можам гаварыць таксама ў выпадку верша „Мора". Твор гэты заключае ў сабе характэрныя для рамантычнай паэтыкі элементы. Верш „Мора" — гэта твор сімвалічны. Сімвалічнае значэнне загалоўка і зместу верша знайшло выясненне ў падзагалоўку (рэвалюцыя народная). І сапраўды, Цётка параўноўвае рэвалюцыю з морам.

Другім спецыфічным і высокамастацкім прыёмам, якім карыстаецца Цётка ў вершы, з'яўляецца спалучэнне ў адну мастацкую цэласць вады і агню, мора і пажару. Супрацьстаўныя па сваёй натуры з'явы — вада і агонь, злучаныя воляй паэтэсы ў адну цэласць, даюць прыгожы і грозны паэтычны эфект.

Несумненна, Цётка ставіла перад сваімі рэвалюцыйнымі творамі канкрэтныя агітацыйныя задачы. Яна імкнулася да таго, каб тыповую для беларусаў мяккасць, лагоднасць і пасіўнасць замяніць катэгарычнасцю, рашучасцю, бунтарнасцю. Пісьменніца старалася пераканаць беларусаў, што рашучасць, цвярозасць і згуртаванне будуць той сілай, якая разаб'е існуючую сістэму. Паслухайма заканчэнне верша „Вера Беларуса".

„Мы не з гіпсу, мы — з камення,
мы — з жалеза, мы са сталі,
Нас кавалі у пламенні,
Каб мацнейшымі мы сталі.
Цяпер, братцы, мы з граніту,
Рука цвёрда, грудзь акута,
Пара, братцы, парваць путы".

Думаю, што прыведзеныя фрагменты вершаў дастаткова выразна сведчаць аб характары рэвалюцыйнай лірыкі Цёткі.

Яшчэ раз хацелася б вярнуцца да праблемы: якая фармальна-стылістычная вартасць рэвалюцыйнай творчасці Цёткі?

Калі б глядзець на гэту творчасць толькі з пункту чыста эстэтычнага, дык трэба было б сказаць, што не прадстаўляе яна вялікай літаратурнай вартасці. Катэгарычнасць, крайнасць, публіцыстычнасць, упрошчанасць — гэта рысы, якія характарызуюць амаль усе рэвалюцыйныя вершы Цёткі. Усё гэта адносіцца да слабага боку творчасці паэтэсы. Парадокс заключаецца ў тым, што гэта слабасць была адначасова сілай паэзіі Цёткі. Зварот да народных мас, сувязь паэзіі з грамадскімі патрэбамі, служба вершаў рэвалюцыі — усё гэта „рэабілітуе" творчасць Цёткі і прымушае нас ацаніць яе як цікавую і арыгінальную з'яву ў беларускай літаратуры.

## Так бывае...

# Сястру і сына звялі са свету

*Оля Феді была так пакорна*
*І паслушна была так на всё,*
*Вечарком, каб не ўзналі суседзі,*
*Побежала она ў лясок.*

*У лясу ожідал её Федя.*
*Говоріл, обнімал, цыловал,*
*А потом узлітел, как разбойнік,*
*І на Олю напал з топором.*

*Пять ударов она получыла,*
*І на землю ўпала мертва.*
*Земля кроў'ю её облілася*
*І вот так её жізнь решана.*

Гэта тры з адзінаццаці куплетаў песні, якую да сёння спяваюць у вёсцы Дабрыводы на Гайнаўшчыне. Было гэта ў 1952 годзе. Федзя-сталяр будаваў будынкі ў Дабрыводзе пасля вялікага пажару. Потым будаваў у Рэпчыцах, што ў некалькі кіламетрах ад Дабрыводаў. У той час пазнаёміўся ён з Оляй Вярэмчук, семнаццацігадовай прыгожай дзяўчынаю, якая з малых год асталася сіратою. Выхоўвалі Олю і двух яе братоў чужыя людзі. Шмат гора спазналі сіраты. Маладая, наіўная Оля верыла Федзі, кахала яго і думала, што будзе ён яе мужам, а далейшы лёс будзе шчаслівейшы. Спатыкалася з Федзем часта і аднойчы сказала, што ў іх будзе дзіцё. Пасля было ўсім вядома, што Оля цяжарная. І тады Федзя прызадумаўся. Калі б яна была багатая, калі б мела пасаг, дык тады ўсё было б у парадку. А так што, голая, як бізун. Ды бацькі Федзі не любілі, як яны гаварылі, „галаёў". І ўрэшце Федзя прыдумаў выйсце, страшнае, нечалавечае. Дагаварыўся з Оляй, каб спаткацца, каб пагаварыць канчаткова аб вяселлі, аб усім, так як гэта трэба было б. Оля ішла з адкрытай душою на гэта спатканне, шчаслівая, што, як думала, Федзя перастаў урэшце крывіць душою.

— Іду на апошні рашаючы бой, на канчатковае рашэнне нашых спраў, — сказала суседзям Оля, адпраўляючыся на спатканне з Федзем.

І сустрэлася яна ў хваіне з Федзем. Селі разам над салдацкім акопчыкам, які астаўся ад вайны. Размова была кароткая. Нечакана Федзя ўскочыў на яе і долатам у пяці месцах рассёк ёй галаву. А каб не чуваць было яе крыку і стогну, задзёр ёй кашулю і сукенку і ўкруціў галаву. Уцягнуў яе ў гэты акоп. Засыпаў зямлёю і нанасіў туды галля. А сам уцёк з месца злачынства.

Оля не вярнулася дамоў. Праходзілі дні. Яе сталі шукаць. І міліцыя шукала, і людзі. Хадзілі па палях і лясах, праз гэтую хваіну таксама праходзілі. Падазравалі, што гэта Федзя звёў яе са свету, але доказаў не было. Яго затрымала міліцыя, але пусціла. Сведкі з Рэчыц схлусілі, што Федзя ў той час быў у іх хаце і не выходзіў нікуды.

Скончылася восень. Прыйшла зіма, а за ёю вясна. І вось выпадкова дзяўчынка, ідучы са школы, задумала ў той хваіне пашукаць маёвых грыбоў. Пад галлём убачыла яна, мусіць, лісіную нару і тут жа побач чалавечую руку. На гэтую вестку збегліся людзі, адкапалі Олю, пазналі яе па яшчэ не згніўшай вопратцы і ўсё памаленьку пачало высняцца.

Браты Олі Валодзя і Сенька цяжка перажылі смерць роднай сястры, з якой разам, без бацькоў, раслі і выхоўваліся ў чужых людзей. З часам яны павырасталі, пажаніліся. Валодзя, ці Уладзімір Вярэмчук, меў ужо сына, таксама Уладзіміра, які служыў у войску. За добрую службу аднойчы атрымаў ён 5 дзён водпуску. Сям'я і аднавяскоўцы сардэчна яго прывіталі. З бацькам і з сябрамі ў нядзелю прывезлі суседцы дроў, выпілі разам літр гарэлкі, а пасля Валодзя з сябрам паехаў на матацыкле да сваёй дзяўчыны ў Белую Страж. Там яшчэ выпілі гарэлкі. У хаце дзяўчыны паміж п'янымі пачалася сварка. Тады гаспадары выкінулі іх з хаты на панадворак. І тут ужо п'яныя кавалеры далі свабоду сваім рукам, у выніку чаго Валодзя Вярэмчук быў смяртэльна паранены. Ляжаў і стагнаў ён на панадворку сваёй нявесты 6 гадзін. Там ён і дух аддаў. А дзяўчына, якую ён кахаў, не выйшла з хаты, каб аблегчыць кананне маладога вайскоўца, якога насмерць забілі сябры.

**Міхась Сваяк**

## У Старыне: Доўгім Бродзе

Гурткі вясковых гаспадынь на тэрыторыі гміны Дубічы Царкоўныя ўзбагацілі ў апошні час сваю грамадска-гаспадарчую дзейнасць. **У Старыне** старшыня гуртка — маладая жанчына Люба Раманюк. У гуртку 20 членаў. У гэтым годзе жанчыны хочуць удзельнічаць у конкурсе на вырошчванне гародніны, плануюць лекцыі агратэхніка на тэму, як сеяць і выхоўваць гародніну, лекцыі аб рацыянальным кармленні і выхоўванні цялят.

У апошні час жанчыны са Старыны арганізавалі курс мясных вырабаў. На курс хадзіла 20 жанчын. Пад наглядам спецыяліста з Гайнаўкі грам. Станіслава Кані жанчыны навучыліся рыхтаваць многа мясных вырабаў (фаршыраваныя робрышкі, сальцісон — белы і чорны, балерон, каўбасу). Найважнейшае аднак, што жанчыны навучыліся разбіраць і чысціць кішкі. На заканчэнне яны падрыхтавалі розныя вырабы для спрабавання. Прыйшлі іхнія мужы і вечар прайшоў у мілай атмасферы.

Актыўны гурток КГВ працуе і ў Доўгім Бродзе, дзе старшынёй была выбрана нядаўна Марыя Хмара. Жанчыны рашылі супольна купіць шаткаўніцу для капусты. У планах у іх таксама лекцыі аб асабістай гігіене і аб вырошчванні і ахове гародніны, аб выхоўванні парасят і цялят. Усе жанчыны з гуртка прыступілі да конкурсу „Больш малака высокай якасці".

Цяпер вясной, пасля вывазкі гною, жанчыны беляць і аднаўляюць хлявы. Яны заказалі ўжо сабе куранят на гадоўлю.

Гурткі вясковых гаспадынь у Дубіцкай гміне актыўныя і маюць давер у асяроддзі. Добра было б, каб дапамог ім крыху ПЗКР у Гайнаўцы, пасылаючы туды сваіх інструктараў.

**Віталій Назарук**



*Шліфаванне чарговага ўмяшчальніка на малако, які чакаюць у Галандыі.*

## Скарасныя брыгады

Маладзёжныя арганізацыі ўключаюцца ў агульны нурт сучаснага гаспадарання. ЗМС з гэтай мэтай праводзіць турніры маладых майстроў гаспадарнасці. Першымі, хто ў гэтым годзе заявіў аб прыступленні да гэтага турніра, былі маладыя з фабрыкі машын і прылад спажывецкай прамысловасці „Спомаш" у Старасельцах. Ініцыятарам было тут завадское праўленне ЗМС, якім кіруе малады член калектыву Яўгеній Сцепанюк.

Два дні 120 маладых членаў „Спомашу" выконвалі прадукцыйны чын, мэтай якога было прысняшэнне экспартнай прадукцыі. Цэнтраля заграніčнага гандлю заявіла, што катлы-ўмяшчальнікі на малако, якія прадукуе наш „Спомаш", маюць адкрыты рынак у Галандыі. Да хуткага выканання гэтага заказу сталі маладыя члены калектыву. Асабліва трэба звярнуць увагу на дзве дзейнічаючыя на заводзе скарасныя брыгады ЗМС. Адной з іх кіруе зваршчык Яўгеній Духноўскі, а другой слёсар Чэслаў Лявіцкі. Хутка пачне працаваць чарговая маладзёжная брыгада.

Ініцыятыву маладых падтрымалі старэйшыя працаўнікі завода. Трэба тут падкрэсліць чын муляра Станіслава Бучынскага, які пасля працы астаўся дзеля таго, каб хутчэй зрабіць падмурак пад станок.

Усе прадукцыйныя і грамадскія чыны маладых з „Спамашу" — гэта іх удзел у святкаванні XXX гадавіны нашай Айчыны.

**Тэкст і фота А. Карпюка**

## Год 1974 на Гайнаўшчыне

*Пачатак на стар. 1*

яе раскінуліся самыя прасторныя сенажаці. Загаспадарванне даліны ракі Нараў адкладаецца да часу канчатковага вырашэння будовы аграмаднага вадасховішча на мяжы Беластоцкага і Гайнаўскага паветаў.

Крыху лепш у нас з дастаўкай сялянам электраэнергіі. Усе вёскі на Гайнаўшчыне ўжо амаль поўнасцю электрыфікаваны. Электрычнага святла не маюць толькі некаторыя хутары і пасёлкі. Таму ў гэтай галіне вялікія работы не прадбачваюцца.

Новыя капіталаўкладанні перш за ўсё прызначаем на разбудову мяшальні спецыяльных кармоў для жывёлы пры гайнаўскім ГС, на якую спатрэбіцца 6,5 мільёна зл. Будзе таксама разбудавана парашкоўня малака пры гайнаўскай малачарні, на што прызначаем амаль 7 млн. зл. Абедзве будовы, як бачыце, цесна спалучаюцца з нашымі намаганнямі ў сельскай гаспадарцы, бо гэта ж апора нашага павету.

Прамысловасць Гайнаўшчыны — гэта, як самі ведаеце, дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы. Камбінат драўніннай прамысловасці імя Юльяна Мархлеўскага ў гэтым годзе запланаваў разбудову мэблевай фабрыкі, на што адводзіць 50 мільёнаў злотых. Ніхто не хацеў прыняць на сябе выкананне гэтай работы. Тады, каб не траціць грошай і часу, дырэктар Зін рашыў зрабіць усё сіламі ўласнага калектыву рабочых. Рабочыя думку адобрылі. Будзе гэта вельмі цікавы гаспадарчы эксперымент, бо яшчэ не здаралася, каб 50-мільённую будову рэалізавалі рабочыя, якія адначасова будуць прадукаваць мэблю і іншыя вырабы з дрэва. Спадзяемся аднак, што такі добры арганізатар прадукцыі, як дырэктар А. Зін, выдатна справіцца і з гэтым нетыповым мерапрыемствам.

**Віктар Рудчык**



## Адгалоскі

### ЗНАЁМСТВА З С. ЯНОВІЧАМ

У трэцім (сакавіцкім) нумары варшаўскага ілюстраванага штомесячніка „Магазын радзінны" раздзел „Сустрэчы з літаратурай" прысвечаны творчасці Сакрата Яновіча. Тут упершыню апублікаваны яго новыя апавяданні „Імяніны", „Гутарка з маці" і „Філосаф". Іншыя — „Аня (кароткая біяграфія)", „Боязь", „Хата" і „Трэцяя пара" ўжо друкаваліся на літаратурнай старонцы „Нівы" ды ў альманахах „Белавежа Нр І" і „Кшталты мысьлі", Пераклала іх Малгажата Лячыцкая, ілюстрацыямі пракаментаваў Антоні Баратынскі.

У публікаванай пры гэтай нагодзе рэцэнзіі Яцка Панкевіча „Вялікі горад Сакрата Яновіча" сцвярджаецца: „...няма тут таксама і захаплення літаратурнымі модамі. Яновіч — гэта проста надта шчырая і таму значная літаратура".

Таксама сакавіцкі нумар „Беластоцкага культурнага інфарматара" сваю рубрыку літаратурных знаёмстваў „Наш госць" прысвяціў Сакрату Яновічу, м.ін. друкуючы ўрывак яго аповесці „Ён і іншыя". (ся)

## З маёй званіцы

# Жыў—быў у бабулькі сыценькі бычок

Даглядала бабулька бычка ляпейлепшага. Даглядала, песціла і прыкармлівала. Еж, бычок, рагачок, не шкадуй сабе. Вось вадзіцы папі, папраўляйся мне. Велькі вырасцеш — бакі бочачкай, завяду я цябе ў церам-гарадок. На самую завяду, на мясную базу. Людзям на карысць і сабе не на шкоду. За тваю прыгажосць — ляшкі тлустыя сам класіфікатар-пан гляне ласкава. Першым класам надзеліць — што для лепшых гасцей. І паедзеш ты экстравыбарам. Аж за мора, аж сіняе. Мне ж сам банку кіраўнік, са скарбу, з дзяржаўнага, на маю кніжачку, на ашчадную, добры грошык прыпіша сваім шчодрым пяром. Добры грошык прыпіша, не шкадуючы. За хлопаты мае — працу цяжкую. Што цябе даглядзела я — брыкуна рагатага. А ты еж, бычок — варушы ляпаю. Ужо дзед-сусед табе корм вязе. Не звычайны корм, а гэ-эсаўскі. Вялікай вартасці, з вітамінамі. Ну, і еў бычок. З'есць — абліжацца. А вадзічкі пап'е — жвачку жвакае. Шэрсць густая блішчыць шоўкам-атласам. Бакі круглыя бочкай пучацца. Разышліся ў шыр — не абняць абручом. Шкура цесная ляжкам гладзенькім. Нарасло на іх мясца цэннае.

І даспеў наш бычок так, як яблычак. Цэлы ззяе аж — медалем лосніцца. Нецярпліва б'е зямлю ножкаю. Ужо пара яму на дзяржаўны торг.

Устала бабуленька рана-раненька. Выламала ў кустах хварасціну доўгую. І пагнала бычка хварасцінаю ў той сам, што ні ёсць церам-гарадок. На пункт скупу той — да класіфікатара.

З хаты выбег бычок — хвост угору задзёр. Не баюся я падарожжа таго! А дарога вядзе полем-горкаю. Па калдобінах, дзірках, ямінах. Не вярста і не дзве — было лепей у хляве. Усё бяжыць і бяжыць — ні тут есці, ні піць. Бакі ўпалі, хвост абвіс, шэрсць каўтуніцца. А за ім бабулька ззаду ледзьве топае. Пяткі ўсе панацірала, хварасціну абламала, хустка спаўзла, у роце суха, ледзьве ўжо ідзе.

Урэшце церам-гарадок той і пункт скупу ўжо. Толькі што ахвотных многа, уся застаўлена дарога, то бычкамі, то свіннямі, то фурманкамі. Усе чакаюць, наракаюць, пункт клянуць і пазяхаюць. Сталі ў хвасце. Хвост, як хвост дохлай кабылы — што гадзіну раз кіўне. Наш бычок заснуў амаль ды й бабулька дрэмле ўжэ. А тым часам пункт працуе, тое купіць, тое не, той, хто дасць, таму шанцуе, хто не дасць — назад вядзе. Стаў і наш бычок на вагу, ведае павагу хвілі. Лоб у гору задзірае, хоць са стомы ўніз хіліць. Махнуў пан ацэньшчык вокам, шчупнуў тут і мацнуў там, мухі падаюць ад хуху, наш бычок аднак стрымаў. Гэты не — сказаў урэшце, уся будова не таго. Праўда, мае вагу бестыя, вага ўсё ж не ў аднаго. Можа ў трэці клас я б яго яшчэ прыняў. Чыстае нахабства гэта — больш жадаць, калі не даў.

Паслухалася бабуля, той парадзіў, той шапнуў. Праз гадзінку наш „рагачык" ізноў кіруецца на пункт. Толькі ўжо цяпер не той ён. Асцярожна ставіць ногі. Як калядная ялінка, пазавешваныя рогі.

На адным рагу паўлітра, звоніць, дзынькае і маніць. На другім — кружок каўбасы дымным пахам нос дурманіць. А каб не было замала (папу плоцяць нават у пост), упіхнула наша бабка адну соценьку пад хвост.

Вось цяпер-та першы клас. Твар ацэньшчыка аж ззяе. А бычка тым часам сперла, жывот пучыць, надымае.

Вось схавалі ўжо бутэльку. Хто і дзе — не адгадаеш. А бычка ўсё болей пучыць, а бычка ўсё надымае.

Нашу бабку ўсе хваляць, трэплюць лапай па плячу. Не агледзелася нават, як сцягнулі каўбасу.

Мае вагу так як трэба і такі як трэба рост, заявіў класіфікатар і зірнуў бычку пад хвост. А там соценька застрала, не туды і не сюды, сперла бедную скаціну, хоць ты лопні, хоць ты вый.

Пацягнуў за хрусткі скрутак, ураз палегчала бычку. Колькі мыўся пан ацэньшчык, пэўна, ясна чытачу.

**Ларс**

 

# ПОЛЬСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫ САЮЗ У ЧЭХАСЛАВАКІІ

У Чэхаславакіі здаўна пражывае польскае насельніцтва. Ацэньваецца, што колькасць чэхаславацкіх грамадзян польскай нацыянальнасці складае каля 80 тысяч чалавек. Большасць іх пражывае ў Цешыне ў прыгранічных з Польшчай паветах, а таксама ў значных гарадскіх цэнтрах па ўсёй краіне.

Народная ўлада ў Чэхаславакіі гарантавала польскай нацыянальнай меншасці, падобна як і іншым нацыянальным групам, поўнае раўнапраўе ў грамадскім і гаспадарчым жыцці краіны, стварыла спрыяльныя ўмовы для развіцця іх прагрэсіўных традыцый, асветы і культуры на роднай мове.

У асяроддзі польскай нацыянальнай меншасці працуюць польскія пачатковыя і сярэднія школы, у Астраве знаходзіцца Педагагічны факультэт, які рыхтуе настаўнікаў і працаўнікоў культурна-асветных устаноў. На польскай мове выдаюцца „Głos Ludu“, грамадска-культурны месячнік „Zwrot“, маладзёжныя і дзіцячыя часопісы „Gazetka Pioniera“, „Ogniwo“ і „Jutrzenka“, штогод выходзіць каляндар-альманах „Kalendarz Śląski“ і іншыя выданні. Дзейнічае **Польскі культурна-асветны саюз,** які ставіць сваёй мэтай усебаковае развіццё грамадскіх ініцыятыў, асветы і культуры ў польскім асяроддзі, а таксама папулярызацыю ў Чэхаславакіі гаспадарчых, грамадскіх і культурных здабыткаў Польшчы, умацаванне і развіццё польска-чэхаславацкай дружбы.

З першага нумара за 1974 год органа Галоўнага праўлення ПКАС „Zwrot“, які выходзіць у Чэшскім Цешыне і адзначаецца высокім узроўнем публікацый, даведваемся, што гэтая арганізацыя складаецца з раённых і гарадскіх праўленняў і шматлікіх гурткоў. Гурткі аб'ядноўваюць значную колькасць членаў — рабочых, сялян, інтэлігенцыі, многа моладзі. Галоўнае праўленне, аддзелы і гурткі ПКАС развіваюць вельмі багатую і разнастайную грамадскую і культурна-асветную дзейнасць. Працуе тэатр „Польская сцэна“, у шэрагу мясцовасцей знаходзяцца дамы культуры, святліцы і клубы ПКАС, у якіх маюць свае сядзібы народныя хоры, аркестры, аматарскія драматычныя калектывы, тэатры паэзіі, лялечныя тэатры (найбольш вядомы „Байка), у сялянскім, рабочым, школьным і студэнцкім асяроддзях дзейнічае каля 50 клубаў маладых з вельмі цікавымі формамі працы. Вядзецца шырокая лектарская дзейнасць, напрыклад, у сувязі з Годам Каперніка лектары ПКАС правялі звыш 150 дакладаў для 15 тысяч слухачоў, прадэманстравана 137 сеансаў фільмаў, прысвечаных М. Каперніку, на якіх было каля 20 тысяч гледачоў — моладзі і дарослых, было арганізавана 97 урачыстых вечарын і канцэртаў, у якіх прыняло ўдзел каля 20 тысяч моладзі і дарослых.

Польскі культурна-асветны саюз штогод праводзіць шэраг масавых культурных мерапрыемстваў — аглядаў розных форм самадзейнасці і спецыяльны Фестываль ПКАС.

У рамах ПКАС развівае сваю дзейнасць значная колькасць навуковых працаўнікоў і творчай інтэлігенцыі (пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў).

Саюз утрымоўвае ажыўленыя сувязі з Народнай Польшчай. Штогод у нашай краіне гасцююць настаўнікі, моладзь, дзеячы з польскага асяроддзя ў Чэхаславакіі, а польскую нацыянальную меншасць у Чэхаславакіі наведваюць дзеячы культуры, навукі і асветы з Польшчы, ездзяць туды тэатры і паасобныя артысты са спектаклямі і канцэртамі. Польскі друк, асабліва кракаўскі, катавіцкі і апольскі, многа месца прысвячае жыццю палякаў у братняй Чэхаславакіі, а Катавіцкае радыё ў сваіх школьных праграмах адводзіць значнае месца працы і дзейнасці польскіх школ у Чэхаславакіі.

(мг)




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК і З'ЯСІ

## Вітаміны ў канцы зімы

Часта на прадвесні адчуваем мы нейкую слабасць, становімся менш адпорнымі на заразныя хваробы, часамі баляць нам косці, дрэнна гояцца раны. У дзяцей наступае часамі затрымка росту. Усе гэтыя нездаровыя прызнакі можна ліквідаваць, уводзячы ў свой штодзённы рацыён як найбольш гародніны, багатай вітамінам С. Неабходна памятаць пры гэтым, што вітамін С распускаецца ў вадзе, а таксама знішчае яго дзейнічаючая доўгі час высокая тэмпература. Як вядома, зімою галоўнай крыніцай вітаміна С, даступнай у кожнай хаце, з'яўляецца кіслая капуста, якую адны любяць есці з цукрам, другія — з цыбулькай і алеем, а яшчэ іншыя — з морквай ці яблыкам. Аднак, можна рабіць на прадвесні і розныя іншыя салаты, дадаючыя нашаму арганізму здароўя і энергіі.

### САЛАТ З КІСЛАЙ КАПУСТЫ

На паўкілаграма кіслай капусты трэба ўзяць 3 лыжкі бурачанага соку, 3 лыжкі алею і цукар па смаку. Капусту пасыпаць цукрам, паліць сокам з буракоў, дадаць алей і ўсё добра вымяшаць.

### САЛАТ З ЧЫРВОНАЙ КАПУСТЫ

На палову невялікага качана капусты ўзяць два яблыкі, 1 кіслы агурок, 3 лыжкі алею, соль, цукар. Чырвоную капусту ачысціць, качан дробна нашаткаваць, сцерці на бурачанай тарцы яблыка і агурок, дадаць па смаку соль і цукар, ды ўсё вымяшаць з алеем.

### САЛАТ З МОРКВЫ і ХРЭНУ

На 2 морквіны ўзяць палову кораня хрэну, 1 яблык, 3 лыжкі смятаны, соль і цукар. Абабраныя і памытыя моркву і хрэн сцерці на дробнай тарцы, яблыка сцерці на бурачанай тарцы. Дадаць смятану, соль і цукар, усё размяшаць. Замест яблыка можна таксама дадаць журавіны або журавінны сок.

### САЛАТ З СЕЛЕРАЎ

На палову невялікага селера бярэм 1 яблык, паўлімона, цукар, соль, 2 лыжкі алею, 1 лыжку гарчыцы. Селер дакладна памыць, абабраць і сцерці на буйной тарцы. Адразу ж спырснуць яго лімонным сокам, каб не сцямнеў. Яблык абабраць, сцерці на бурачанай тарцы, вымяшаць з селерам, дадаць соль і цукар, заліць алеем, змешаным з хрэнам.

### САЛАТ З ПОРАЎ

На 2 поры ўзяць 1 кіслы агурок, 1 яблык, соль і цукар, 3 лыжкі алею. Поры ачысціць і дакладна памыць, абрэзаўшы цвёрдую пятку і перакроіўшы іх уздоўж. Пасля нарэзаць поры тоненькімі паўкружкамі, пасаліць, пасыпаць цукрам. Абабранае яблыка і агурок сцерці на буйной тарцы, размяшаць з порамі і алеем.

**Гаспадыня**




### КАХАНАЙ

Як добра нам было з табою,
Хаця я быў салдат.
Не пагарджала ты так мною,
Як іншых рой дзяўчат.

Наадварот, мяне кахала
І я цябе — клянуся!
Чаму ж разлука нас спаткала?
Я сам не разбяруся.

Мы ж шчасце мелі у далонях,
Чаму ж яго не піць?
Мы ж верылі, толькі супольна
Будзем яго дзяліць.

Якой жа шчырасцю, любоўю
Сябе мы абдаралі
І колькі мараў мы з табою
Аб будучым складалі!

Ўсё нам здавалася так простым,
Нармальным, зразумелым,
І хоць ужо былі дарослыя,
Стрымаць мы шчасця не ўмелі.

Яно так хутка расплылося
Разам, каханая, з табою,
Нам толькі гора засталося,
Боль у сэрцы не дае спакою.

Чаму ж так сталася, пытаю?
А мо і сам ў тым вінаваты?
Ды я далей цябе кахаю
І нат дагэтуль нежанаты.

**Міхась Гаротны**




*Журавель ля студні на галоўнай вуліцы Сідры Сакольскага павету.*
*Фота Я. Цялушэцкага*




— Пагодка невясёлая, а ехаць трэба, — уздыхнуў Глебаў, пазіраючы ў мутнае акно. — Дадзеныя сур'ёзныя, Пётр Пятровіч. Гарадноў дакладваў, што мост на шашы ахоўваецца дрэнна. Адзін вартавы ды дзяўчынка-рэгуліроўшчыца. А ўчора да іх наведаўся нейкі сержант з суседняй часці, з дзяўчатамі-рэгуліроўшчыцамі пазнаёміцца хацеў. Вартавога ён гарэлкай пачаставаў. Калі б быў гэта парашутыст, аховы на мосце ўжо не было б, ды і моста таксама.

— А магчыма ён і быў.

— Вось іменна. Трэба спяшацца. Паеду ў часць сам і буду лаяцца, патрэбна ўзмоцніць ахову, растлумачу сітуацыю. Вярнуся ўвечары або заўтра раніцай. Ноччу вышліце дазор да моста.

— Ёсць, таварыш капітан!

Глебаў і Лузан закурылі, чакаючы, пакуль запрагуць коні.

— А Кудароўшчына заварушылася, — сказаў зампаліт, — заўтра буду гаварыць з партызанамі наконт атрада самаабароны, у людзей добры настрой. А кулакоў тут больш чым я думаў. І, па-мойму, верхаводам у іх Казімір Вышаслаўскі.

— Што-небудзь даведаліся?

— Пакуль адны падазрэнні, але думаю, той, што гранатамі кідаўся, прыходзіў да старога. Шкада, што ўпусцілі гада.

— Цяпер позна шкадаваць, — пахмура сказаў Глебаў.

— Я думаю ля хаты Вышаслаўскага з боку лесу засаду зрабіць.

— Бескарысна. Стары ўжо зразумеў, што мы ім зацікавіліся, і напэўна прыняў меры, калі ён звязаны з бандай. Хітры д'ябал.

— І ўсё-такі кантроль за хатай патрэбны.

— Кантроль абавязкова. І вось што, Пётр Пятровіч, днямі павінен прыехаць у Кудароўшчыну малодшы сын Вышаслаўскага Людвіг. Ён капітан Войска Польскага, камандуе батарэяй. Трэба выкарыстаць ягоны прыезд і папрасіць дапамагчы нам.

— Адкуль вы ведаеце?

— Стася сказала.

Лузан уважліва паглядзеў на Глебава, пагладзіў вусы.

— Ну, што вы на мяне так глядзіце, — збянтэжыўся Глебаў, — сама прыйшла і сказала. Што тут такога?

— Не, нічога, вядома. Проста я думаю: з кім жа Стася? Трэба ёй дапамагчы зрабіць канчатковы выбар.

Тачанка падскоквала на карэннях лясной дарогі.

Глебаў паўляжаў на ахапку сена, кінутага ў павозку, прытрымліваў аўтамат, каб не скакаў ад штуршкоў.

Падарожжа было не вельмі прыемным, але капітан не думаў пра яго. Дзе і як знайсці астатніх парашутыстаў з гэтага праклятага „Лістапада“ — вось што не давала спакою Глебаву. Ён амаль фізічна адчуваў прысутнасць дзесяці фашысцкіх дыверсантаў і не мог спакойна есці, спаць, думаць пра нешта іншае.

Калі па шашы перакідваліся войскі, два „студабекеры“ з салдатамі ўзляцелі ў паветра. Магчыма, і сапёры недагледзелі, калі размініравалі шашу ад нямецкіх мін, а можа гэта работа дыверсантаў.

Дарога да гарадка, дзе размяшчалася часць, была няблізкая. Прыехалі толькі ў абед. Глебаву спрачацца не давялося. Камандзір часці, палкоўнік, адразу ж усё зразумеў і разам з Глебавым тут жа накідаў сістэму ўзмоцненай аховы моста.

Палкоўнік тут жа аддаў неабходныя распараджэнні, накарміў Глебава і Максака добрым абедам і прапанаваў пераначаваць. Глебаў падзякаваў палкоўніку, але астацца нанач катэгарычна адмовіўся.

Коні, адпачыўшы, пабеглі дамоў больш спорнай рысcю. Было яшчэ не позна, але ў лясных гушчарах ужо згушчаўся сыры і золкі змрок. Выехалі на развілку дарог. Недзе тут, непадалёку, быў невялічкі фальварак, у якім знаходзілася падсобная гаспадарка шпіталю. Да Кудароўшчыны было яшчэ дзве гадзіны язды. Глебаў паглядзеў на неба — хутка ноч, ён падумаў, што, мусіць, дарэмна не застаўся заначаваць у палкоўніка. А можа скіраваць у фальварак?

Раптам адчайны крык абарваў думкі Глебава. Максак рэзка спыніў коней. Крык паўтарыўся, ужо бліжэй да дарогі. Глебаў і Максак саскочылі з павозкі, схапіліся за зброю. Крокаў за трыццаць наперадзе выбегла на дарогу дзяўчына і, убачыўшы павозку і салдат, кінулася да іх.

— Ды гэта ж наша Стася! — здзівіўся Максак. — Чаго яна тут?

— За ёю нехта гоніцца, — сказаў узрушаны Глебаў. — Стань вунь за тую сасну і вазьмі дарогу на прыцэл. — Сам адышоў за павозку.

Стася з разбегу наляцела на Глебава, сутаргава ўчапілася ў мокрае сукно шыняля.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Конкурс савецкай песні ў Орлі

У святліцы ў Орлі адбыўся гмінны элімінацый конкурсу савецкай песні. Як штогод, удзельнікаў было вельмі многа. Таму арганізатары раздзялілі конкурс на „малы" і „вялікі".

У малым спявалі вучаніцы пачатковай школы з Орлі, Пашкоўшчыны і Малінніка. На жаль, не выступіў у ім ніводзін хлапец. Гледачам вельмі спадабаліся песні ў выкананні маладых салістак. Асабліва маленькая Аля Бурыла з Пашкоўшчыны ачаравала гледачоў сваім спевам. Яна заняла другое месца. Найлепшай была Міра Гаўзэ з Орлі, а трэцяй — Аля Рагоза, таксама з Орлі.

У вялікім конкурсе найлепшымі былі Яўген Балло і Мікалай Лапух. Вельмі ўдачна выступіў Аляксандр Кубаеўскі. Не менш прыгожа спяваў хор з Орлі, які разам з лаўрэатамі малога і вялікага конкурсаў выступае і на паветовым агглядзе савецкай песні ў Бельску.

**Рыбка**

## Клуб старога чалавека

Пастараліся ўсе грамадскія арганізацыі, што дзейнічаюць пры раённым камітэце № 24 у Беластоку — гэта ў раёне „Тысячагоддзя", і ў выніку маем тут „Клуб сеньёра" (гэта значыць — клуб старэйшага чалавека).

Клуб прыгожы і добра абсталяваны. Ёсць каляровы тэлевізар, розныя гульні. Клуб абсталявала Беластоцкая жылёвая спулдзельня.

На адкрыцці клуба з дакладам аб міжнароднай сітуацыі выступіў мгр Браніслаў Тэрашэўскі. Усе жыхары ў нашым квартале вельмі задаволены, што працуе ўжо клуб для старэйшых асоб. Заклікаем іншых да арганізавання клубаў старэйшым людзям.

**Васіль Петручук**

## Каб лепш

Палавіна вуліцы ў Дубічах Царкоўных мае ўжо асфальт. Аднак месцамі гэты асфальт паложаны не вельмі роўна і ў тых месцах доўга стаіць вада пасля дажджу. Месцамі асфальт мае ўжо трэшчыны, мо таму, што раблі яго ў мароз. Хто яго ведае! Хочацца, каб другая палавіна вуліцы, калі будуць яе асфальтаваць у гэтым годзе, была лепш, акуратней зроблена.

**П. Дубовіч**

## ГЕРБ

Крама ў Дубічах Царкоўных у сваёй бакавой сціне звонку мае герб. Што гэта значыць? Штукатурка тут аблупілася і такім дзіўным спосабам прыпамінае нешта незвычайнае. Людзі кажуць, што гэта герб з другой планеты, з Марса. А не лепш было б, каб сцяна мела свой ранейшы выгляд? Аштукатурыць трэба аблупленае месца (гэта некалькі гадзін работы). Гміна ў Дубічах Царкоўных напэўна знойдзе ў сваёй касе пару злотых для майстра .

**П. Дубовіч**

---

— Там... немцы, — ледзь прамовіла яна, задыхаўшыся, і Глебаў у той жа момант убачыў дзве брудна-шэрыя постаці, якія выскачылі з гушчара на дарогу. Ён рэзка штурхнуў Стасю ў кювет і, падаючы побач з ёю, пачуў аўтаматную чаргу. Коні сталі біцца ў павозцы, захраплі і амаль разам рухнулі на зямлю. А Максак ужо біў адзіночнымі стрэламі. Біў без промаху. Абедзве постаці засталіся ляжаць на дарозе.

Стася расказала, што хадзіла на хутар у Тыжэчкі да сваякоў. Ішла ўжо назад, і раптам немцы. Высунуліся з кустоў, страшныя, зарослыя, і крыкнулі „хальт"! Яна кінулася наўцёкі і дзякуй богу натрапіла якраз на сваіх.

Глебаў зняў плашч-палатку і накінуў на плечы Стасі.

— Пойдзем у фальварак, — вырашыў ён, — там пераначуем. — Ён падышоў да нерухомых коней і пагладзіў іх мокрыя пысы.

— Як шкада, — уздыхнуў ён, — добрыя коні былі.

Потым затрымаліся каля забітых фашыстаў, забралі ў іх дакументы, зброю. Немцы аказаліся салдатамі пяхотнай дывізіі, разгромленай тут з месяц назад.

— Дабегаліся, ваякі, — буркнуў Максак.

Стася спалохана адвярнулася і пацягнула Глебава за рукаў далей ад гэтага страшнага месца.

(Працяг будзе)

## Якая апека пошты?

Жыву і працую на гаспадарцы ў вёсцы Кожына. Чытаю розныя часопісы, але найбольш цікавіць мяне „Ніва". Прачытаў я ў „Ніве" пра сваю вёску і дай, думаю, сам напішу ў рэдакцыю, як слаба апякуецца Кожынам пошта ў Пасынках. Выйшлі вось кадовыя нумары, але ніхто не падумаў пра тое, каб адпаведныя коды павыпісваць на паштовых скрынках. Як жа інакш будзеш іх помніць? Наша вёска Кожына — невялікая, праўда, але ў нас і скрынкі паштовай няма. Як не дапільнуеш пісьманосца, то і не здасі лісту, бо ў Пасынкі з Кожына 8 км, з кожным лістам не будзеш гнацца на пошту. А пісьманосец жа не можа ведаць, хто хоча выслаць ліст. Чаму ж няма скрынкі на лісты ў Кожыне?

**А. Б.**

## Як прайшоў карнавал

Пару слоў, як прайшоў карнавал у некаторых нашых вёсках. У клубе ў Грэдалях адбылося некалькі вечарын. На пахвалу заслугоўваюць Тапчыкалы, дзе былі арганізаваны вечарыны асветнага характару — тут добра працуе гуртук КГВ і фальклорны калектыў. Добра паказалася моладзь у Кошках. Яны арганізавалі дзве вялікія вечарыны з цікавымі праграмамі. На адной выступіў мастацкі калектыў з Парцава. Добра папрацавала моладзь пачатковай школы ў Пашкоўшчыне. Яна наладзіла „Ёлку" і маскарад. Маскарад быў цікавы, бо былі добра прыдуманы ўборы.

**Суседка**




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Два гады таму назад пазнаёмілася я з Ванем. Была я тады вучаніцай апошняга класа ліцэя. Навукі было шмат, а тут штораз вечарам Ваня зойдзе. У яго часу было шмат, ён ужо працаваў. Сядзім доўга, на навуку часу не хапае. Сказаць, каб не прыходзіў, не магу, ён мне спадабаўся. Але тут мама мяне выручыла. Сказала, каб не дурыў мне галавы, пакуль школы не закончу. Ваня пакрыўдзіўся і больш у нашай хаце не паказаўся. На злосць пачаў хадзіць з іншай дзяўчынай. Я вельмі перажывала. Калі закончыла я школу, мы ізноў зышліся. Але тут паклікалі Ваню ў армію, а я пайшла вучыцца ў двухгадовую пасляматуральную школу. Адыходзячы ў армію, Ваня запрасіў мяне на развітальны вечар, я аднак прыехаць не магла. Ваня ізноў на мяне пакрыўдзіўся і ў пісьмах мне гэтым дакараў. Калі атрымаў водпуск, прыехаў да мяне. Правялі мы разам вечар, здавалася, было ўсё ў парадку, а Ваня ізноў чагосьці скапрызіўся. Пісаць перастаў. Цяпер я ўжо закончыла школу, распачала працу, Ваня вярнуўся з войска. Мяне цягне да яго, хочацца спаткацца, але ж першай, бадай, не выпадае зачапіць, калі Ваня, праходзячы міма, толькі ўклоніцца і далей пайшоў, як бы мы амаль і не зналіся. Дзяўчат часта змяняе, то з той, то з іншай круціць. Мне вельмі крыўдна. Як убачу, дык сэрца запікае і, здаецца, усё б прабачыла, каб толькі вярнуўся. Можа, ажаніўшыся, змяніўся б. Не ведаю, што рабіць. Можа, першай яго зачапіць і пагаварыць. Але ці выпадае?

**Вера з Сакольшчыны**

**Вера!** Ты пакахала Ваню, дык табе і цяжка, і крыўдна. Але сабой не накідвайся. Трымайся ганарова. Гэта нават часамі памагае вярнуць хлопца. У тваім выпадку, па-мойму, няма патрэбы рабіць такіх захадаў. Няма сэнсу звязвацца з несалідным ды ветраным хлопцам. А спадзявацца, што, ажаніўшыся, зменіцца — слабенькая надзея. Не адна, лічыўшая на гэта, расчаравалася, пажыўшы замужам, і не раз, уздыхнуўшы, сказала: „Якім ты быў, такім астаўся".

**„Сэрцайка"**

## БАЛЬ У ЛІЦЭІ

У агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове традыцыйная студнёўка ў гэтым годзе выйшла вельмі добра. Зала, дзе адбываліся танцы, была прыбрана накшталт смочай ямы. Атмасфера была добрая. На студнёўку прыйшлі таксама бацькі, якія супольна са сваімі дзецьмі-матурыстамі правялі гэты вечар.

А вось што сказалі аб сваёй студнёўцы вучні:

Янка Рыбінскі — IV б: „Студнёўка ў гэтым годзе была адной з найлепшых. Дэкарацыя залы вельмі прыгожая. Іграў добры аркестр, яго рэпертуар спадабаўся ўсім. Атмасфера дасканалая".

Анна Агроднік — IVа „Без лішніх слоў, студнёўка была цудоўная. Атмасфера сяброўская. Два разы нам падавалі смачны пачастунак. Мая студнёўка надоўга мне запомніцца".

**Павел Гутнік**

## Гарачае малако ў Тапалянах

Хаця сёлета зіма цёплая, але шклянка гарачага малака школьніку зусім не пашкодзіць. Ад зімовых канікул у пачатковай школе ў Тапалянах даюць дзецям шклянку гарачага малака. Дзеці вельмі задаволены і ў 90% карыстаюцца з гэтай формы дапамогі.

**М. Краўчук, Патока**

## Трэба ліквідаваць адлогі

Да канца 1973 года ў вёсцы Дубіны быў сельскагаспадарчы гуртук, які не занадта добра выконваў свае абавязкі. Вёска Дубіны мае некалькі гектараў супольнай зямлі, якая ляжыць каля горада Гайнаўкі. Згодна з пастановай даўнейшага ППРН у Гайнаўцы, гэтую „спульноту" загаспадарыў некалі дубінскі гуртук і некалькі год на ёй гаспадарыў. Ды ў гадах 1970-72 зямлю гэтую ён аддаў у арэнду рабочым з Гайнаўкі, якія садзілі тут бульбу. У 1973 годзе зямля гэта ляжала адлогам. Сельскагаспадарчы гуртук у Дубінах быў ліквідаваны. Яго маёмасць прыняў гуртук ў Навасадах, які добра працаваў. У гуртку гэтым адбыліся выбары новага праўлення. Прэзасам стаў Аляксей Пракапчук, дыспетчарам Пётр Лапінскі.

Сёння, калі кожны колас на вагу золата, калі кожны гаспадар змагаецца за лепшыя плёны і за ўзрост жывёлагадоўлі, нельга дапусціць, каб супольная зямля вёскі Дубіны зноў у 1974 годзе ляжала адлогам. Заданне гэтакае стаіць найперш перад сельскагаспадарчым гуртком у Навасадах, але таксама гмінныя ўлады павінны трымаць на гэтым нагляд.

**Раса**

## Выбары солтыса

У лютым у Грэдалях адбыліся выбары солтыса. Людзі ізноў выбралі солтысам Мікалая Астапчука, які і дагэтуль выконваў гэту функцыю.

Пасля выбараў была невялічкая мастацкая частка. Дзяўчаты — Аня Амельянюк і Яўгенія Максімюк спявалі прыгожыя песні. Дзяўчаты гэтыя прымуць удзел у паветовым аглядзе конкурсу савецкай песні.

Як бачыце, Грэдалі даюць сваіх прадстаўнікоў на ўсе конкурсы. Нядаўна Вера Брэнко і Надзя Мамрук заваявалі першае месца ў павеце на песенным конкурсе БГКТ.

**Суседка**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### Піва толькі на вынас

АДКАЗВАЕ:
**POWIATOWY ZWIĄZEK GMINNYCH SPÓŁDZIELNI „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W HAJNÓWCE.**

W nawiązaniu do notatki prasowej zamieszczonej w 52/931 numerze „Niwy" z dnia 30.12.1973 r. w sprawie działalności kiosku Nr 3 zlokalizowanego w Hajnówce przy ulicy Lenina wyjaśniamy co następuje.

W/w kiosk uruchomiliśmy w miesiącu wrześniu ub. roku w celu usprawnienia zaopatrzenia mieszkańców w tym rejonie Hajnówki. W związku z notatką prasową informującą o nieprawidłowościach przy obsłudze klientów, wprowadziliśmy sprzedaż piwa tylko i wyłącznie na wynos, zabraniając jednocześnie spożycia piwa w kiosku.

W tej sytuacji stworzone zostały lepsze warunki do dokonywania zakupu pozostałych artykułów spożywczych.

**Wiceprezes Zarządu PZGS**
**Wł. Iwaniuk**




**М. Базылюк.** Нам вельмі па душы былі б кароткія весткі аб жыцці рыбакоў, пажадана такіх, хто неяк звязаны з Беласточчынай. Доўгіх нарысаў у адрэзках мы не ў сілах друкаваць. Калі ласка, пішыце заметкі, ды кароткія — згода? Прысланыя матэрыялы, вельмі скараціўшы, можам надрукаваць. Здымкі не падыходзяць да публікацыі.

**Міра Лукша.** Творы надрукуем.

**„Маладзёж і жыхары"** з Ягаднікаў. Мілыя, ваша інфармацыя ананімная. Ну хто ж гэта „моладзь і жыхары" — а дзе ж прозвішчы? Ананімаў не друкуем. Не хочаце падпісвацца ў газеце, дык толькі да ведама рэдакцыі напішыце, хто вы.

**Станіслаў.** Ваша інфармацыя пра ўдаву не падыходзіць нам да друку.

**Н. Н. Бельскі беларускі ліцэй.** Чаму толькі Н.Н.? Не, не можам здагадацца. Расшыфруйцеся.

**Яўгенія Юрчук.** Верш „Зіма", паправіўшы, надрукуем. Ваша жаданне перапісвацца перадалі „Зорцы".

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Czajkowski" (radz.), 26—27. „Oto jest głowa zdrajcy" (angl.), 28—29.

**Чаромха**
„Kłopoty z cnotą" (jugosł.), 26—27. „Motyle" (polski), 30—31.

**Кляшчэлі**
„Ambasadorowie nie mordują" (NRD), 26—27. „Słoń z indyjskiej dżungli" (radz.), 28—29. „Co ważne w życiu" (czeski), 30—31.

**Нараўка**
„Pod prąd" (węgierski), „Zimorodek" (radz.), 27—31.

**Нарва**
„Wynajęty człowiek" (USA), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 27—31.

**Чыжы**
„Ocalenie" (polski), „Dramat zazdrości" (włoski), 27—31.

**Дубічы Царкоўныя**
„Ciepło twoich rąk" (radz.), „Opętanie" (polski), 27—31.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Sekret" (polski), „Pogromca zwierząt" (rumuński), 27—31.

**Райск**
„Hubal" (polski), „Skok o świcie" (radz.), 27—31.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Bitwa w wąwozie" (radz.), 30—31.

**Міхалова**
„Wynajęty człowiek" (USA), 26—27. „Wydra pana Grahama" (angl.), 28—29. „Obcym wstęp wzbroniony" (polski), 30—31.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Własne zdanie" (bułg.), 26—27. „Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), 28—29. „Nocny kowboj" (USA), 30—31.

**Мілейчыцы**
„Ostatni strzał" (polski), 26—27. „Powrót na miejsce wypadku" (jugosł.), 28—29. „Liliowa akcja" (węgierski), 30—31.

**Мельнік**
„Jankes" (duński), 26—27. „Sześć niedźwiadków i klown Cebulka" (radz.), 28—29. „Morgiana" (czeski), 30—31.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 8107 O-3

## ПАЛТУС ПА-ГРЭЧАСКУ

Змалку мы песцім дзяцей. Што лепшае — ім. І суцяшаем сябе: мы гаравалі, дык няхай хоць дзеці пажывуць. Да работы нават дакрануцца не дазваляем: маўляў, яшчэ напрацуецца, прыйдзе час. І час прыходзіць. Непрыкметна дзеці сталеюць, а мы іх па-ранейшаму лічым маленькімі. Калі мая Наташка заявіла, што выходзіць замуж, паверце, я ажно прысела.

— Куды табе замуж, кажу, дзіця ты горкае?!

— Гэтаму дзіцяці ўжо дваццаць тры гады, — пакрыўдзілася яна.

Успомніла я, што ёй і сапраўды дваццаць тры. Я ў васемнаццаць выскачыла.

Не сказаць, каб мне зяць спадабаўся. Нямоглы нейкі, у акулярах.

— Дзе ты такога кашчэя знайшла? Глянь — на сонцы свеціцца. Кармі яго, а то ад ветру ўпадзе.

— Якога хацела, такога і знайшла, у цябе не спытала.

— Ты не злуйся, слухай, што маці кажа. Адкарміць яго трэба.

— Нічога з ім не станецца. Захоча есці — сам згатуе.

— Не мужчынская гэта справа, кажу, у каструлях боўтацца, не мужчынская. Твой бацька за такія рэчы, ведаеш?..

— Як можаш, мама?! У мяне дыпломная на носе, а ты... Сама гатуй.

— А што гатаваць? — пытаюся. — Можа боршч згатаваць і бульбу падсмажыць?

— Ой, мама, хіба я разумею ў гэтым што! Але бульба — надта прымітыўна. Вось засмажыла б гуся ў белым віне ці згатавала б палтуса па-грэчаску. Абед, мама, заўсёды павінен быць сытны і смачны. І яшчэ, мама, нам трэба абнавіць посуд. Гена казаў, што прыгожы посуд павышае апетыт.

— Эге ж, павышае, — падтакнула я і ў думках падлічыла, колькі гэта будзе каштаваць. А дачка тым часам працягвала:

— Ён любіць пячоначны паштэт. Ты ўмееш яго гатаваць? Не? Я куплю табе спецыяльную літаратуру.

І купіла. Так з таго часу я і завіхаюся на кухні. Гатую трэці год! Зяць, каб мая праца не засталася па-за ўвагай, завёў „Кнігу водгукаў і прапаноў“. Яна вывешвалася на відным месцы, над кухонным сталом.

Яно, канешне, не цяжка згатаваць. Але справа ў тым, што гэта да дабра не даводзіць. З асабістага вопыту ведаю. А калі са мною што здарыцца?

І вось сёння ўзяла я гэтую кнігу водгукаў і напісала: „Я пайшла ў кіно: смажце гуся ў белым віне і зрабіце палтус па-грэчаску. Мама“.

**І. Рэчыцкі**




# НІЎКА



## ГУМАР З

### ПАРА ВАЛОЎ

Бедны мужык залажыўся з багацеем, што будзе з панам абедаць.

— Ну, добра, як паабедаеш, дык я табе пару валоў дам!

Прыходзіць да пана, пакланіўся ніценька.

— Пане, я яшчэ нікому аб гэтым не тавaрыў. Што б каштаваў во такі кавалак золата? — І паказаў яму на руку...

Той нічога яму не кажа, крыкнуў, каб прынеслі гарэлкі, напаіў яго, даюць абедаць, той сядае і абедае з панам; пан аж гарыць, хацеў бы ведаць, дзе той кавалак золата, ды й пытае:

— Дзе ён стаіць, каб яго прынесці?

— Ды што ж, пане, у мяне няма, я пытаю, колькі ён варты, каб яго мець?

— Які дурань!

— Я не дурань, пане, калі гэтым спосабам выйграў пару валоў.

### РЫБАКІ

— Я ўчора злавіў во такую рыбіну, — хваліўся суседу.

— Можа быць, — згадзіўся той. — Я пазаўчора злавіў на два кілаграмы большую.

— Хіба ты маю важыў?

— Не я, а прадаўшчыца. Большую я сабе ўзяў, а меншую табе пакінуў.

### ДОБРАЕ ВЫНАХОДНІЦТВА

— Пеця, ты чуў, што нейкі вынаходнік сканструяваў педальны пасажырскі аўтобус?

— А як на ім будуць ездзіць?

— Вельмі проста. Кожны пасажыр круціць нагамі педаль, а шафёр толькі рулюе. Ні дыму, ні гуку.

— Вось добра, я ў такім аўтобусе буду заўсёды ўступаць месца старэйшым.

### ЗАПРАЦАВАНЫ

— Ты так многа працуеш, дарагі, — гаворыць жонка мужу, — што нават на начах клічаш сваю сакратаршу.



...Ён наткнуўся на думку і атрымаў зрушэнне мазгоў.

...Ён так баяўся адказнасці, што падрабляў уласны подпіс.

### ДАРОГА

Пацыент у зубнога ўрача:

— Колькі каштуе вырваць зуб?

— Дваццаць крон.

— Гэта занадта дорага. Ці не можаце вы расхістаць яго за дзве кроны, а астатняе я зраблю сам.

### САМЫЯ КАРОТКІЯ ДНІ

Настаўніца запытала ў лянівага вучня:

— Валерык, скажы, калі бываюць самыя кароткія дні?

— У час канікулаў, — адказвае той.

### ХАМЯЧОК

Вельмі прагны Хамячок
З дошкі выцягнуў сучок,
Цераз дзірку
ледзь не з пяскам
Галаву сваю праціснуў.
Ды ад скваплівасці зашмат
Ён у рот набраў зярнят,
Складкі распусціў ля шыі,
Як мяшкі набіў тугія.
Быў і сам пасля не рад:
Ні наперад, ні назад.
Хамячок перастараўся,
Прагнасць, ведайце, нідзе
Да дабра не давядзе.

**Уладзімір Мацвеенка**



### ЖОНКА

— Ваша жонка цэлы дзень бурчыць, лаецца. Як вы гэта выносіце?

— Гэта што! Горш, калі яна ў добрым настроі. Тады яна спявае.

### ЯК ВЫЙДЗЕ

У цырульню зайшоў п'яненькі чалавек. Сеў у крэсла.

— Як вас падстрыгчы? — спытаў цырульнік.

Кліент парыўся ў кішэнях, знайшоў залатоўку, палажыў яе на стол і сказаў:

— Вось як выйдзе, так і стрыжыце. На ўсю залатоўку...

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Алі Кандрацік з Ставішчаў, Марыі Новік з Дубін, Інгі Паўлючук з Гайнаўкі, Ані Вышчук з Кузаваў, дзяўчат (Лены, Галі, Марысі і Лідкі) з Грудоўкі, а таксама моладзі з Гурнага Гроду змяшчаем песню

## CO JEJ MOGŁEŚ DAĆ

**słowa: Wojciech Filipowski**
**muzyka: Katarzyna Gaertner**
**śpiewa: Jacek Lech**

Nie wiem nawet czy pamiętasz, że był kiedyś taki czas
gdy na drogę, którą biegłeś upadł słońca blask.
Kiedy ona była z tobą miałeś zawsze dziwny fart
łatwo przyszło, łatwo poszło — inny więcej szczęścia ma.
Nie miałeś nic prócz dwojga rąk
no powiedz, co jej mogłeś dać?
Chciałeś zabrać ją na inny ląd.
Nie miałeś nic prócz dwojga rąk
no powiedz, co jej mogłeś dać?
Chciałeś zabrać ją w daleki świat.
I miałeś sen, niedobry sen,
że między wami wyrósł las,
że między wami mroczna dal.
I miałeś pełne pracy dni
no powiedz, co jej mogłeś dać?
On miał czas — wolny czas.
Koło w górze, koło w dole — tak się toczy każda gra
choć jej chciałeś podarować klucz do wszystkich bram.
Nieopatrznie potrącona jeszcze smuga cienia drga
łatwo przyszło, łatwo poszło — inny więcej szczęścia ma.

### ПАРТРЭТ

Вядомага кампазітара Ігара Стравінскага аднойчы на італьянска-швейцарскай граніцы падверглі грунтоўнаму таможнаму агляду. Пачалося ўсё з таго, што ў чамадане кампазітара знайшлі яго партрэт, напісаны Пікасо. Італьянскія таможнікі падумалі, што гэта схема абаронных умацаванняў паўночнай Італіі.




*— Зноў забыў пры саскоку адпусціць кольцы!*

# КУРЁЗЫ

### ЖУЛІКІ БЯРУЦЬ ТАЙМ-АЎТ

Дацкая паліцыя адзначыла цікавы факт: з таго часу як у краіне забаронена па суботах і нядзелях карыстацца аўтамабільным транспартам, у гэтыя дні значна скарацілася... колькасць кватэрных крадзяжоў. На думку ахоўнікаў парадку, жулікі адпачываюць у „забароненыя“ дні, паколькі без аўтамашын немагчыма вывезці нарабаванае і ўцячы ад праследавання. Паліцыя мяркуе, аднак, што змяншэнне колькасці крадзяжоў па суботах і нядзелях непазбежна будзе папоўнена іх павелічэннем у іншыя дні тыдня.

### МАЎЧАННЕ — ЗУСІМ НЕ ЗОЛАТА

Размаўляць карысна — так сцвярджае прафесар Уільямс, які ўзначальвае Інстытут псіхалогіі ў амерыканскім штаце Агаё. Негаваркія людзі, на думку прафесара, падвяргаюцца розным стрэсам, бо не даюць выхаду энергіі, якая накапліваецца ў іх. А ў выніку гэтага... заўчасна старэюць.

Востраслоўны ж зазначаюць, што калі тэорыя прафесара правільная, то становіцца зразумелым, чаму прадстаўніцы прыгожага полу, як больш гаваркая частка чалавецтва, жывуць даўжэй.

### „РАБІНЗОН“ XX СТАГОДДЗЯ

Калі Зазо Кучычу, які жыў у адной з вёсак Далмацыі, споўнілася 12 гадоў, бацька сказаў яму і яго братам, што ён не хоча больш іх карміць і няхай „хлопцы выбіраюць сабе дарогу“.

Зазо, пакінуўшы бацькоўскі дом, пасяліўся на бязлюдным астраўку ў Адрыятычным моры ля ўзбярэжжа роднай Далмацыі. Мінула 84 гады з таго часу, як Зазо Кучыч жыве на „сваім востраве“. Увесь гэты час ён харчаваўся рыбай і дзікімі трусамі. „Рабінзон“ нашых дзён зусім адвык ад людзей і хаваецца, калі яны з'яўляюцца на востраве.




*Перш чым сказаць глупства — падумайце!*